«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 3 (211), сакавік 2024 года


# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 3 (211) (сакавік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus


## Змест





**ГРАМАДА**

# Зона разбурэння



Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ

...Патрапіў неяк у кампанію, скажам так, далёкую ад беларускасці. Але вёў там рэй якраз вядомы нацыянальна з'арыентаваны творца. Спачатку ён годна прадстаўляў наш беларускамоўны асяродак, але праз пару чарак пачаў перамежваць свае спічы з так званымі «слоўцамі для сувязі». А паколькі гэта быў чалавек творчы, то і слоўцы тыя былі не абы якія...

Гэты «матавы» фон моцна разануў па маіх вушах. Ну ніяк не стыкаваўся ў маім сэрцы адборны мат з вуснаў гэтага чалавека са шляхетнымі і прыгожымі вобразамі, якія «выляпляў» ён у сваёй творчасці!

Аднак адзначу, што якраз наш беларускамоўны асяродак усё ж такі доўгі час быў найменш заражаны брыдкаслоўем...

Што ж датычыць асноўнай масы беларускага грамадства, то там брыдкаслоўе сёння відавочна пануе. Яно выдатна прыжылося на ўсіх сацыяльных паверхах грамадства. Яшчэ можна зразумець наш шаноўны рабочы клас ці сялянства — для іхняй моўнай нястрымманасці, відавочна, ёсць сёння нямала жыццёвых падставаў. Але тая атмасфера, што пануе на больш шляхетных узроўнях нашага соцыума, выразна паказвае, якой формы культурную будыніну мы ўзвялі ў нашай дзяржаве за гады незалежнасці. Нешта накшталт выродлівай архітэктурнай пачвары...

На вялікі жаль, сёння ў Беларусі натхнёна брыдкасловяць практычна ўсе: з дзіцячасадаўскага ўзросту да салідных пенсіянераў. Татальная эпідэмія мацяршчыны віруе сёння ў навучальных установах рознага ўзроўню, не адстаюць працаўнікі творчага фронту: артысты, спевакі, прэса і інш. Большасць маладых проста не разумеюць, што яны прамаўляюць. Як, зрэшты, і большасць падлеткаў у школах, малыя ў дзіцячых садках! Для іх брыдкаслоўе — важны элемент «круцізны», як тая ж цыгарэта і піва, асабліва калі дарослыя даюць таму заўсёдны прыклад. Што такое брыдкаслоўе, які яно робіць уплыў на чалавечую душу і г.д., яны не ведаюць...

А, між тым, такія веды ўжо больш за тысячу гадоў існуюць у арсенале нашай хрысціянскай царквы, якая мае вельмі цікавы досвед барацьбы з мацяршчынай. На думку царквы, спрабуючы запляміць самае святое — маці, — чалавек па сутнасці ступае на шлях самога адмаўлення жыцця. Таму брыдкаслоўе царква без усялякіх скідак называе малітваю д'яблу — сіле, якую вядомы вучоны Л. Гумілёў назваў Антысістэмай.

Цалкам салідарная з царквой і сучасная навука, якая параўноўвае ўздзеянне брыдкаслоўя на нашыя мову і цела з уздзеяннем небяспечнага віруса. Словы, іх гукі — як хвалевы імпульс пэўных частот — бяруць актыўны ўдзел у працэсах існавання клетак жывой матэрыі. Ужо шмат гадоў праводзяцца доследы па ўплыву розных гукаў і слоў, у тым ліку і матных, на рост раслінаў. Дык вось, уздзеянне так званай ненарматыўнай (як многія, кажуць, бяскрыўднай!) лексікі, якая адносіцца да так званых «нізкіх» частот, аказалася адэкватным моцнаму радыёактыўнаму апраменьванню. Расліны пад уздзеяннем брыдкаслоўя пачыналі імкліва выраджацца і гінуць. Калі ж уздзейнічалі на іх словамі рэлігійных малітваў, то ў выніку атрымліваўся адваротны эфект.

Тлумачэнне простае: брыдкаслоўе літаральна ўрываецца ў святая святых нашых генаў. Структура ДНК відазмяняецца і перадаецца нашчадкам. Такім чынам у эстафеце пакаленняў запускаецца так званая «праграма самаліквідацыі». Тыя, хто сёння аддае шчодрую даніну пачвары брыдкаслоўя, запускаюць пэўную ланцуговую рэакцыю, якой няма канца-краю і якую калісьці ўжо нішто і ніхто не зможа спыніць.

Мы быццам заключылі між сабою нейкую жахлівую дамову: хто каго перамацярыць! Разбураючы пры гэтым не толькі цэльнасць свайго «я», але і імпэтна забруджваючы энергетыку акаляючага духоўнага свету. А ў ім усё вельмі шчыльна знітавана: жыццё і смерць, дабро і ліха.

Зону ўлады брыдкаслоўя можна назваць «зонай разбурэння», а па вялікім рахунку — і зонай смерці. Небяспечны вірус у нашым сацыяльным арганізме набірае ўсё большую моц і ўрэшце можа атрымаць там канчатковую перамогу.

Як жа супрацьстаяць гэтаму ліху? Як вядома, для беларусаў вельмі характэрны патэрналізм — у выніку сваёй эвалюцыі мы сталі празмерна падатлівымі для ўплыву сваіх правадыроў, як для станоўчага, так, на жаль, і для адмоўнага. І вось якраз тут мне і бачыцца магчымасць хаця б крыху аслабіць уціск «матавай» пачвары на бедныя душы насельнікаў гэтай зямлі. Перакананы, што калі б нашыя сённяшнія так званыя «эліты» (уладныя і духоўныя) сталі прыкладам у барацьбе з ёю, перасталі аддаваць ёй шчодрую даніну, сітуацыя хутка памянялася б у лепшы бок.

У нашым грамадстве трэба стварыць прэстыж, калі хочаце, моду, на «чыстаслоўе», калі лаянка будзе рэзаць слых не толькі «кісейным» паненкам, але і ўсім нармальным людзям, адразу даючы сігнал, што побач з вамі небяспека! А пачынаць трэба з малога, ствараючы «тэрыторыі, вольныя ад брыдкаслоўя» — «установу без ...», «кавярню без ...», «школу без ...», і г.д. І прыклад тут мог бы падаць якраз наш беларускамоўны асяродак — тыя ўстановы, аб'яднанні, тусоўкі, якія карыстаюцца роднай мовай паўсядзённа, у якіх яшчэ жывы здаровы інстынкт нацыянальнага самазахавання.

Большасць з тых, хто сёння актыўна выкарыстоўвае ненарматыўную лексіку ў зносінах з іншымі людзьмі, хутчэй за ўсё хавае за гэтым самую што ні на ёсць сваю звычайную чалавечую, асабістасную няўпэўненасць і слабасць, а значыць, і сваю непаўнавартаснасць. І гэта, відавочна, характэрна для большасці з тых, хто шчодры на брыдкаслоўе. Мат становіцца ў такіх выпадках чалавеку нейкім апрышчам, ён быццам бы дазваляе акрэсліць недастатковую мужнасць. Але гэта найвялікшая ілюзія — бо чалавек радыкальна змяншае маштаб сваёй душы...

У пэўны перыяд жыцця і я аплаціў шчодрую даніну пачвары брыдкаслоўя, асабліва падчас службы ў войску на пасадах малодшых камандзіраў. Тады здавалася, што без гэтага аніяк! Скончылася ўсё гадкой трыццаць таму ў адзін дзень — дзякуючы выпадку, на першы погляд, быццам бы містычнаму, але насамрэч вельмі рэальнаму. Здарылася гэта крыху больш чым праз год пасля смерці майго бацькі. Я тым вечарам вярнуўся дадому з працы ў вельмі дрэнным настроі: атакавалі нейкія непрыемнасці. Дома нечакана сарваўся на жонку, выкарыстаўшы пры гэтым (як, можа, ніколі дасюль) ледзь не ўсю вядомую мне ненарматыўную лексіку. Ноччу мне выразна прысніўся мой нябожчык бацька, які стаяў да мяне спіной. Калі ён павярнуўся — увесь ягоны твар быў быццам зрэзаны глыбокімі шрамамі. У той жа момант я прачнуўся, расштурхаў жонку і распавёў пра свой сон. Я неяк імгненна і празрыста зразумеў тады ягоны сэнс: бацька быў пры жыцці заядлы мацяршчыннік, і ўбачаныя мною ў сне шрамы на твары выразна сведчылі пра вялікія пакуты ягонай душы ў іншым свеце ад таго свайго граху.

Відаць, такім вось чынам ён пасылаў мне з іншасвету сігнал-перасцярожанне: не мацярыся!

Перасцярожанне аказалася дзейсным.



Фота lifedeeper.com

# «Вясна будзе!»

## Паэзія змагання Валянціна ТАЎЛАЯ

Алеся ЧАРНАВОКАЯ

Споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння Валянціна Таўлая. На першы погляд яго біяграфія выдатна адпавядае вобразу паэта-камуніста: Заходняя Беларусь, падпольная камсамольская арганізацыя, сем гадоў «польскіх» астрогаў за камуністычную дзейнасць, зноў падпольная барацьба ў час Вялікай Айчыннай вайны…

Але падставай першых сур'ёзных праблем былі не камуністычныя погляды, а нацыянальная самасвядомасць: у Слонімскай настаўніцкай семінарыі хлопец падчас перапісу паведаміў, што з'яўляецца беларусам і размаўляе па-беларуску, за што быў вымушаны неўзабаве пакінуць вучобу (цікавы факт у дачыненні да надзейнасці вынікаў усемагчымых перапісаў мінулага стагоддзя).

Бацька паэта, Павел Таўлай, быў сябрам Беларускай сацыялістычнай грамады — і вершы Валянціна вельмі рана пачалі тычыцца менавіта палітычных праблем: «О ты, Згода, адгукніся, / Дзе ты прападаеш? / Цябе рэдка дзе пабачыш, / Рэдка дзе бываеш!» — пісаў Валянцін Таўлай з нагоды «палемікі паміж грамадоўцамі і хадэкамі, што разгарнулася на старонках заходнебеларускага перыядычнага друку ў сярэдзіне 1920-х гадоў».

У далейшых творах ён не спяшаўся ў кожным радку абвяшчаць сваё захапленне камунізмам, ухваляць савецкую рэчаіснасць і марыць пра светлую будучыню — хаця ёсць у яго і «чырвоны жар», і «ясная сцежка да шчасця», і «панска-бліскучы бот».

Зрэшты, для паэтаў Заходняй Беларусі, якім давялося стаць палітвязнямі, больш актуальнай была тэма змагання за волю і долю свайго краю:

*І стаю я ў захапленні,*
*Неразгаданым і новым,*



«Партрэт Таўлая». Раман Семашкевіч, 1930-я гг.

*Поўны цёплае любові,*
*І гатоў гарэць, загінуць*
*За вясну маёй краіны…*

*Радасна ўздыхнулі грудзі:*
*— Адчыняйце хаты, людзі!*
*— Адчыняйце сэрцы, людзі!*
*— Вясна будзе! Вясна будзе!*

Гэты верш напісаны Валянцінам Таўлаем у чатырнаццаць гадоў, але і многія іншыя яго творы бліжэй да патрыятычнай лірыкі, чым да ўльтрасавецкай паэзіі. Большасць з іх, натуральна, былі складзены ў астрогах — ўспамінаў, там многія звярталіся да паэзіі (верш «Вяснянае сэрца бараніць ад шэрай, астрожнай тугі»). Адпаведна, пашыранай была тэма зняволення і чакання свабоды — расповеды пра жыццё вязняў ( і нават паэма — «Сухар»!), гнеўныя тырады («Скаваны бунтар», «Думы непакорныя») і абсалютна шчымлівыя, роспачныя радкі:

*Грудзі ныюць, сэрца б'ецца,*
*Карагоды ззяюць зор.*
*Зоры, зоры! Дзе ж мне дзецца?*
*А між вас прастор… прастор…*

Гэтыя вершы выдатна цытуюцца ў сучасным палітычным і літаратурным кантэксце — зрэшты, твораў такога кшталту багата на старонках сённяшніх паэтычных зборнікаў, яны часта ператвараюцца ў песні маладых музычных гуртоў.

Сябры заўсёды поплеч, і іх шмат, ворагі — каты і тыраны, верш натхняе да барацьбы, хочацца трапіць праз краты да зор; экспазіцыя таксама знаёмая:

*Ідзе за годам год,*
*Сівеюць людзі, хаты,*
*І ўсё ў ярме народ,*
*А над шляхамі — краты.*

Магчыма, такімі вершамі пачынаюць многія з тых, хто пакіне яркі след у беларускай літаратуры — галоўнае, каб своеасаблівы жанр «паэзіі змагання» са сваім наборам матываў, сюжэтных схемаў і літаратурных штампаў не замінаў аўтару выказвацца цікава і самастойна.

Паэт, апанаваны прагай барацьбы — з польскімі панамі, фашыстамі, савецкай уладай ці кім-небудзь яшчэ, — вельмі часта звяртаецца да ўжо вядомых вобразаў, ідэй, стылістычных прыёмаў. Бо чароўнае натхненне насамрэч становіцца плынню стэрэатыпаў, сімвалічных, акцыянальных і культурных кодаў, якія з галавой накрываюць аўтара і знаходзяць выйсце ў радках, строфах, вершах, вельмі падобных да некім некалі ўжо напісаных…

Ёсць людзі, арганічна не здольныя адчуваць, бачыць і думаць у агульнапрынятым рэчышчы — яны прынцыпова не могуць пісаць банальшчыну.

Для іншых ёсць багата магчымасцяў супрацьстаяць волі дыскурса: у межах пэўнай тэмы можна вылучыць тыя моманты, якія звычайна застаюцца незаўважанымі, змяніць ракурс ці агульны фон. Калі ж гэта не атрымліваецца, застаецца шчыраваць над формай, шукаць адмысловыя вобразы, — што і рабіў Валянцін Таўлай, рыхтуючы ў пасляваенны час свае вершы для першага зборніка.

Многія трапныя радкі паэта («пілую вершам краты», «удавою тужыць ніва») — плён доўгага, шматгадовага абдумвання твораў. Кранае нават верш «Першамайскія сцягі» («Цяпер яны, як дужыя арлы, /На ветры буйным распасцёрлі крыллі, /А некалі ж мы іх, як арлянят малых, /Тулілі к сэрцу і ўзлятаць вучылі»), і сумна, што завяршаецца твор пагрозлівым заклікам «трымаць вострым штык і ўзнятай галаву» — лірычны настрой быў нядоўгім.

Пошук адмысловых вобразаў ішоў марудна, што, верагодна, было пэўнай праблемай. Валянцін Таўлай з'яўляўся намеснікам дырэктара музея Янкі Купалы — і планаваў напісаць дысертацыю па творчасці класіка, стварыць аповесць, прысвечаную яго дзяцінству. Задумы не спраўдзіліся: паэт-падпольшчык часта быў на паўкрока ад смерці, каля дзясятка такіх выпадкаў апісана ва ўспамінах яго роднымі і сябрамі.

У трыццаць тры гады ён памёр ад хворага сэрца…

Музей, бюст, мемарыяльная дошка… Валянціну Таўлаю пашанцавала больш, чым многім рэпрэсаваным аўтарам, унёсак якіх у беларускую літаратуру быў дакладна не меншы. Зрэшты, за савецкі рэжым ён сапраўды змагаўся, і цяжка сказаць, кім Валянцін Таўлай быў у большай ступені: камуністам, патрыётам ці паэтам?

Іерархія беларускіх класікаў дагэтуль патрабуе пэўнай карэкціроўкі — і месца для гэтага аўтара на прыступках пачэснай лесвіцы зарэзервавана найперш дзякуючы марам маладога змагара пра беларускую вясну.

Мастацкія здабыткі класікаў (у нашым выпадку — Якуба Коласа і Янкі Купалы) у творах непасрэдных паслядоўнікаў успрымаюцца даволі свежа — далей мы маем справу з нацыянальнай традыцыяй, сталымі вобразамі-сімваламі ды эпігонствам. А жанр «паэзіі змагання» дагэтуль застаецца неўміручым, і варта думаць, што праца ў гэтым рэчышчы будзе плённай.

# Беларускім шляхам

## Да 90-годдзя Арсеня ЛІСА

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

Кажучы пра феномен беларускага шасцідзясятніцтва, даследчыкі, зазвычай літаратуразнаўцы, амаль заўсёды імкнуліся весці паралелі са «старэйшым братам», у якога былі Еўтушэнка, Раждзественскі, Вазнясенскі, Ахмадуліна, Акуджава, Плошча Маякоўскага, вечары на стадыёнах і ў Політэхнічным. Раўнаючы на беларускую сітуацыю, адзначалася, што ў нас, маўляў, таксама было сёе-тое, але маштабы не тыя…

Ушчэнт забываліся людзі на спецыфіку. Беларускае шасцідзясятніцтва было ў першую чаргу нацыянальна-арыентаваным па сваёй сутнасці. Зрабілі яго феноменам, як ні дзіўна, не толькі і не столькі пісьменнікі, а навукоўцы-гуманітарыі: Міхась Чарняўскі, Генадзь Каханоўскі, Міхась Ткачоў, Мікола Ермаловіч, Зянон Пазьняк, Генадзь Кісялёў і, безумоўна, Арсень Сяргеевіч Ліс.

Менавіта руплівая праца гісторыкаў у 1960—1980-я гады — збіранне і захаванне, перадача з вуснаў у вусны, з рук у рукі фактаў, кніг, вусных успамінаў, а пазней і правядзенне праз цэнзурныя рагаткі да публікацыі — дазволіла ўзнавіць нацыянальны праект у надзвычай складаных варунках савецкага часу, а пазней, у час паўстання незалежнасці, за некалькі гадоў стварыць нацыянальны варыянт гістарыяграфіі.

У кола аднадумцаў кожны трапляў сваім, часам вельмі пакручастым шляхам. Для Арсеня Ліса беларускасць была роднай, яна спадарожнічала яму з самага маленства.

…Ён — заходнік. Як можна прайсці наўзбоч беларушчыны, калі бацьку твайго вучыў у школе Язэп Гаўрылік, які неўзабаве стане пасолом польскага сейма; калі цётка твая выходзіць замуж за паэта Алеся Салагуба, а дзядзька Васіль аздабляе графікай беларускі часопіс «Маланка». У хаце тваёй некалі спыняўся Сымон Рак-Міхайлоўскі. Пад падушкай у цябе ляжыць хрэстаматыя «Родны край» Леанілы Чарняўскай, часопіс «Заранка» і пецярбургскае, «заглянесонцаўскае» «Другое чытанне» Якуба Коласа. Маці і бацька, сялянка і чыгуначнік, спяваюць на два галасы «Не загаснуць зоркі ў небе…», «Зорку Венеру», а дзядзька Рыгор спыняе цябе ў двары і патрабуе прадэкламаваць «Хто ты гэткі? Свой, тутэйшы».

Сёння гэта гучыць як фантастыка. Тым не менш, у Заходняй Беларусі было нямала такіх мясцін, і Лісава вёска Вётхава на Смаргоншчыне зусім не была «беларускім гета»: хапала сваіх беларускіх дзеячаў, палітыкаў, паэтаў, мастакоў і ў суседняй гміне, і ў суседнім ваяводстве…

І як тут не станеш даследчыкам культуры Заходняй Беларусі?!

Зрэшты, да сваёй тэмы Арсень Ліс падступіўся не адразу. Была вучоба на філфаку БДУ, праца ў Шаркаўшчыне ў мясцовым РАНА, а неўзабаве — пераезд у Мінск, на працу ў Дзяржаўнае выдавецтва БССР.

Хто толькі не тупаў калідорамі выдавецтва ў 1957—1959 гады, калі там працаваў малады Ліс. Прыязджалі з высылкі і турмаў былыя «маладнякоўцы» і «ўзвышэнцы», заходзілі ў выдавецтва са сваімі новымі кнігамі, а хто навечна застаўся за кра́тамі, рукапісы тых прыносілі жонкі і дзеці. Наведваліся і маладыя.



«Партрэт Арсеня Ліса».
Анатоль Крывенка, 2002 г.

Не ўсе ведаюць гэты факт, але каб не Арсень Ліс, застаўся б першы зборнік Уладзіміра Караткевіча без вершаў «Паўлюк Багрым» і «У векавечнай бацькаўшчыне клёны…». Першы з іх быў прызнаны двухсэнсоўным, а другі проста выкінуў з рукапісу рэдактар «Матчынай душы».

«Заходніцтва» вярнулася ў аспірантуры Акадэміі навук, куды Ліс паступіў у 1959 годзе, ды так і застаўся з Акадэміяй на ўсё жыццё. Першая ж тэма, «Народна-паэтычная творчасць Заходянй Беларусі», стала лёсавызначальнай, як быццам распаўшыся на дзве асобныя: заходнебеларускае мастацтва і народную песню, за якой навуковец дзесяцігоддзямі ездзіў па ўсёй Беларусі, запісваючы на магнітафон, парадкаваў у дыхтоўныя тоўстыя тамы серыі «Беларуская народная творчасць», аналізаваў у фальклярыстычных манаграфіях.

Збіраючы матэрыял для дысертацыі, Арсень Ліс перагарнуў падшыўкі ўсіх заходнебеларускіх перыёдыкаў, а неўзабаве выйшаў і на старых беларускіх дзеячаў: Зоську Верас, Янку Багдановіча, сыноў Антона Луцкевіча і многіх іншых. Завязаліся знаёмствы, паляцелі з Вільні ў Менск доўгія лісты, праз якія адкрывалася невядомая, замкнёная ад староннягa вока гісторыя Беларусі. З цягам часу фактура ўвасобілася ў кнігах пра Браніслава Тарашкевіча, Язэпа Драздовіча, Язэпа Горыда, Міколу Шчакаціхіна, Пётру Сергіевіча — кнігах вельмі чулых, набліжаных да мастацкай прозы, і ў той жа час вельмі насычаных унікальнымі звесткамі.

Мажліва, гэтыя біяграфіі, якім ужо стукнула паўвека, паціху старэюць. Але замяніць іх пакуль няма чым. І не вельмі рвуцца наступнікі, каб дапоўніць сказанае Лісам, напісаць аб'ёмнейшыя і лепшыя кнігі. Да таго ж — Арсень Сяргеевіч мог запраста ўдакладніць нешта ў жонак Тарашкевіча і Шчакаціхіна, у самога Пётры Сергіевіча, у сваякоў і землякоў Драздовіча, у віленскіх беларусаў. У каго сёння спытаецца даследчык? Толькі ў архіўных папераў і… у тэкстах самога Арсеня Ліса, чыя памяць была — «томов премногих тяжелей».

…Ён — інтэлігент: акуратны і гжэчны, асцярожны ў ацэнках і ўважлівы да іншага меркавання. І чытанне ягоных кніг — заўсёды інтэлектуальнае задавальненне і, адначасова, праверка і ўрок.

…Ён — чалавек, на якога хочацца быць падобным.

# Дні мае, падарункі



Кастусь ЦВІРКА

***28 сакавіка адзначае сваё высокае 90-годдзе паэт, празаік, перакладчык, гісторык, фалькларыст, этнограф, мовазнавец, рэдактар, выдавец і паважаны аўтар «Літаратурнай Беларусі» Кастусь ЦВІРКА.***

***Шчыра жадаем Кастусю Аляксеевічу радасці, здароўя і натхнёнасці, а чытачам прапануем вязьмо яговых абразкоў пра родную Зялёную Дуброву.***

*У кожным дні свой спеў, свой вецер,*
*Свае вясёлкі, горан свой.*
*Іграйце ж, дні мае, у свеце,*
*Раскручвайся, жыцця сувой!*

***З даўняга верша.***

***

Мой прыезд у Зялёную Дуброву затрымаў сёлета снег. Гэтай зімой снегу панакідала на мінскіх вуліцах горы. Машыны не паспявалі яго звозіць, і бульдозеры ссоўвалі снежныя навалы на ўзбочыны вуліц і тратуараў. Гэтыя навалы нагадалі мне тую суровую зіму, калі ішла фінская вайна. Тады ўся вуліца маёй вёскі была ў снежных гурбах. Толькі пасярэдзіне людзі пракапалі вузенькі праход-траншэю. Такія траншэі ішлі і ў двары, пад хаты. Самі хаты былі па стрэхі закіданы снегам. У нашай хаце сярод дня стаяў нейкі нязвычны змрок: вельмі слабенькае, прывіднае святло ішло толькі ад снегу, які амаль цалкам засланяў знадворку вокны і які глядзеўся з хаты не белым, а дзіўна шэрым, цёмным, амаль чорным.

Сёлетні снег раставаў вельмі марудна. Толькі ў канцы сакавіка ад яго збольшага вызваліліся мінскія вуліцы. І я пачаў збірацца ў сваю Зялёную Дуброву.

Зялёная Дуброва — невялікая, аднавулічная вёсачка на самым ускрайку лясістага Старадарожскага раёна, непадалёку ад вытокаў ракі Арэсы і возера Скачальскага. Гэта — Верхняе Палессе, наша гістарычная Случчына.

Завезці мяне з жонкай туды ўзяўся на сваім «джыпе» сын.

Усё, што трэба было ўзяць з сабой, падрыхтавалі звечара. Таму раніцай збіраліся не доўга.

Надвор'е выдалася хмурнае. Сеяўся дробны спакойны дождж. Здавалася, так будзе ўвесь дзень. Ды калі мы пагрузіліся і я зачыняў дзверцы машыны, па іх слізганула і сонца, што акурат выбліснула з-за хмар.

Так што ехалі мы і з дажджом, які зрэдку паліваў нам дарогу ды пырскаў у вокны, даючы работу дворнікам, і з вясёлымі бліскамі сонца.

***

Звычайна я стараўся чым раней прыехаць пасля зімы ў сваю Зялёную Дуброву. Каб не прапусціць вясну, убачыць яе прыход, прасачыць прылёт птушак.

Ды гэтым разам першыя дні вясны прайшлі без мяне. Мы прыехалі ў самы яе разгар — на пачатку красавіка.

Здаецца, усе птушкі ўжо прыляцелі. Яны так і носяцца ўсюды — па адной і чародкамі, шчабечуць у густым сліўніку за плотам. У маіх высозных дуплістых ігрушах-дзічках упэўнена гаспадараць, пераскокваючы з галінкі на галінку і хораша высвістваючы свае мелодыі, чорныя, як вугаль, шпакі — яны адны з першых вярнуліся з выраю і наноў абжываюць свае хаткі, якія я збіў гады тры назад з дошчачак.

У агародчыку ўсё — і леташняе палеглае лісце вяргіняў ды касачоў, і голле дрэў ды кустоў, і лаўка перад вокнамі, і груды перакапаных на зіму градак — мокрае ад нядаўна расталага снегу. Ды і ўсё паветра напоўнена свежай вясновай вільгаццю. Так і хочацца пасля горада ўдыхаць гэтую шырокую свежасць, саму вясну.

***

Агледзеўшы панадворак, іду адмыкаць хату. Цягну на сябе ручку дзвярэй: а раптам і без мяне ўжо яе хто адамкнуў? Бывала ж такое. Апошні раз, праўда, даўнавата: гадоў восем назад. Узяўся тады вось гэтак адмыкаць дзверы, а ключ лезе ў пустату: замок аказаўся без сэрцавіны. Дзверы былі толькі прычынены: нехта пагаспадарыў? Калі кінуўся аглядаць хату, трохі адлягло ад душы: здаецца, усё асталося на месцы. Толькі пасля выявіў то адну, то другую прапажу: стары, але яшчэ спраўны прымач, запасная электрабрытва і яшчэ сякія-такія дробязі. Потым мне расказалі, што гэта наведваўся сюды на веласіпедзе адзін спрытны залужак — чалавек з Залужжа, нашай калгаснай сталіцы. Мне і прозвішча яго назвалі, вельмі там пашыранае, — Заяц. Расказвалі нават, што ён намерваўся прыехаць сюды з падводай — каб забраць мой халадзільнік і яшчэ нешта з мэблі: перашкодзіла яму тое, што па дарозе дадому ён абрабаваў краму ў Лядах і яго схапіла міліцыя. Злодзей апынуўся за кратамі. З таго часу ў нас з гэтым пацішэла. Можа, яшчэ і таму, што на нашай адзінай вуліцы электрыкі паставілі высокія бетонныя слупы з асвятленнем: па вёсцы ўжо не пройдзеш уночы незаўважаным. Так што цяпер нішто не пагасцяваў у маёй хаце.

І яшчэ не цярпелася мне зірнуць, як перазімаваў мой садок за агародчыкам, ці не пачапалі яго «сябры нашы меншыя». Хоць я і паабвязваў увосень ствалы дрэўцаў яловымі лапкамі, але ж гэтыя вушасцікі, калі захочуць, знойдуць дзе патачыць свае вострыя зубы. Летась праз мой недагляд яны гэтак пастараліся, што загубілі адну вельмі дарагую мне яблыньку, спусціўшы ўсю яе кару з верху да нізу. Не, сёлета зайцы — і чатырохногія, і двухногія, — не прычынілі мне шкоды. Ужо добра.

***

Першая мая работа па аглядзе сядзібы — прапальванне грубкі. Каб бардзджэй нагрэць настылую за зіму хату. На маім тэрмометры пры дзвярах — усяго пяць градусаў цяпла. Халадзіна! Асабліва непрыемна вылазіць такім холадам з нагрэтай пасцелі раніцай. Каб стала ўтульна і «камфортна» ў хаце і не дрыжаць раніцамі, мне трэба давесці тэмпературу да дзевятнаццаці-дваццаці градусаў.

І от мая грубка аж гудзе ад агню, пастрэльваючы вугалькамі. З ім ажывае хата, на душы робіцца весялей. Ён жа, агонь, як-ніяк — дзіця сонца, што спакойненька спала дасюль у маіх дровах, а цяпер я выпусціў яго адтуль. Хай жа сабе гуляе ў маёй грубцы.

***

Раніца — з марозікам. На лужынках, у каляінах, дзе яшчэ не сышла талая вада, — цёмныя шыбінкі тонкага лядку. Па краях ён — нязвычна белы: мусіць, таму, што пад ім усё ж высахла за ноч вада. Лядок і прыхопленыя марозам грудкі зямлі падатна пахрустваюць пад нагамі.

Я іду ў блізкі ад мяне лес, што за вуліцай, напроці маіх вокан, спускаць сок. Гэта даўно чаканы момант. Спусканне соку заўсёды спалучаецца ў мяне з вясной, з бляскамі сонца. Запомнілася з дзяцінства: паўз нашы вокны нясе з лесу два поўныя вядры бярозавіку суседка Маня, што жыве за вуліцай; сок пераліваецца цераз краі, і ў вёдрах, паблісківаючы залатымі пярсцёнкамі, скачуць, гуляюць сонечныя зайчыкі.

У лесе — поўны спакой. Застылі ў нерухомасці хвоі, не варухнецца звіслае голле бяроз: вецер яшчэ не прачнуўся. У глыбіні лесу пастуквае аб цвёрдае дрэва дзяцел, уверсе бязладна ціліньakаюць нябачныя лясныя птушачкі.

Ступаючы па вільготным бруднавата-зялёным імху, па выцвілым леташнім лісці, а дзе і па скрылях зярністага, набраклага вадою снегу, ад якога шырока расходзіцца свежасць, выбіраю таўсцейшую бярозу. Стаўлю збоку кош з прыладдзем, дастаю з яго сякеру і ачэсваю да рыжага чорную, моцна парэпаную ў камлі кару. Потым раблю на расчышчаным, падроўненым касы надсек. Калі сяку, з-пад ляза сякеры пырскае сок і тут жа з высечанай расшчэліны выскоквае вялікая і мутная, як слюдзяная, кропля. За ёю адразу ж бягуць другія. Убіваю абухам пад ніжнім канцом надсека свой металічны латак. Ад надсека па латаку працягваю ільняную нітку. Сок сцякаецца да яе і шпарка бяжыць па нітцы, як па торнай дарожцы, бесперапынным струменьчыкам. Цяпер ужо не мутны, як на пачатку, а чысцюткі, што крышталь. Ён пахне свежасцю, бярозай і снегам. Падстаўляю пад гэты струменьчык чыста вымыты трохлітровы слоік і накідваю на яго складзеную ў дзве столкі марлю — каб не лезлі мурашкі і ўсякія жучкі ды мошкі. Усё — хай цяпер набіраецца жыццядайная вільгаць.

***

У Зялёнай Дуброве — ажыўленне. Па вуліцы паўз маю хату шмыгаюць легкавыя аўтамашыны, праходзяць — па двое, па трох — апранутыя па-святочнаму жанчыны з яркімі букетамі кветак у руках: сёння — Радаўніца. Радасць сустрэчы з роднымі, з самымі дарагімі, якія назаўсёды пакінулі гэты свет і, нібы пасля шчырага жніва ці малацьбы, спяць моцным, на жаль, непрабудным сном на нашых дуброўскіх могілках.

Гадзін пад адзінаццаць іду туды, на Раз'езд, і я з сёстрамі і пляменніцамі.

На могілках — поўна людзей. Стаяць перад магілкамі сваіх, узяўшыся за жалезныя зубцы агароджаў, нешта папраўляюць у саміх агароджах, мяняюць кветкі. Многія магілкі і дарожкі каля іх пасыпаны жоўценькім пясочкам — каб навесці лад, хто мог, прыходзіў ці прыязджаў сюды напярэдадні.

Бальшыня людзей — прыезджыя. Былыя дуброўцы. Заявіліся сюды са Старых Дарог, з Асіповіч, з Мінска, з недалёкіх селішчаў. Дзеці і ўнукі тых, хто вечным сном спачывае тут, на пясчаным грудку, сярод роднага лесу...

Сунімаюся каля нашай агароджы. На агульным гранітным помніку — партрэты бацькі і мацеры. Хоць тут яны разам, чаго не давалі войны. Побач — магілка нашай бабуні Касцічыхі і цэментовы помнік з чырвонай зоркай — дзеда, Канстанціна Аляксандравіча Рымашэўскага. Памёр ён у 1932 годзе ад мазаля (так шчыраваў на калгаснай будоўлі). Памёр у Бабруйску, тагачасным нашым абласным цэнтры, куды ездзіў лячыць свой мазоль. Не вылечыў. Там і пахавала яго мая маці, якая прыязджала адведаць хворага бацьку ў бальніцы. Параўнальна нядаўна яго дзеці — мае дзядзькі і цёткі — наважылі вярнуць бацьку дадому, у Зялёную Дуброву. Толькі не захацелі трывожыць яго касцей: узялі з магілы жменю пяску і перавезлі сюды гэты помнік з чырвонай зорачкай. Не ведаю, ці добра так рабіць. У кожным разе і яго, нашага дзеда па мацеры, мы можам цяпер ушанoўваць.

***

Пры дарозе, у цемнаватай талай вадзе — жоўтае дзіва: лотаць! Ступаю ў прарызіненых ботах проста ў ваду і, хапаючыся за доўгія мясістыя сцябліны, выцягваю яркія суквецці.

Вялікі, з пахам веснавой свежасці букет стаўлю дома ў крышталёвай вазе на стол. Як пасвятлела, як пахарашэла ад лотаці ў хаце! Нібы прынёс сюды саму радасць. Разумею цяпер сваю маці, якая кожнай вясной ставіла ў слоіку гэтыя залацістыя кветкі на падаконнік.

*Будуць вечна сады расцвітаць,*
*Белагрудыя ластаўкі лётаць*
*І дзявочыя ногі таптаць*
*Залатую лотаць.*

І хоць дзяўчаты наўрад ці будуць таптаць босымі нагамі «залатую лотаць», бо па яе трэба лезці ў халодную ваду, у балота, але гэтыя ўзнёслыя радкі верша Пімена Панчанкі вельмі сугучныя майму настрою, навеянаму зіркатымі вясновымі кветкамі.

***

Сёння яшчэ ў мяне адно свята — перакопка зямлі пад дрэвамі і кустамі. Пачынаю з яблыні перад хатай — маёй каштэлі: я прышчапіў яе некалькі гадоў назад на дзікай яблыньцы, якую прынёс з лесу. У яе ўжо вызначылася роўная купчастая крона. Выходзячы з хаты, кожны раз цешуся ёю.

Асцярожна, каб не зачапіць карані, запускаю рыдлёўку ў зямлю, яшчэ вільготную пасля зімы, і — скібіна за скібінай — пераварочваю набок. Закончыўшы перакопку, разгладжваю груды граблямі. Адыходзячы, гляджу, ці роўны атрымаўся мой прыствольны круг, ці не трэба яго яшчэ паправіць, даваршыць нейкім штрышком малюнак.

Такую ж перакопку раблю пад усімі яблынямі ды ігрушамі, пад вішнямі, слівамі, пад кустамі смародзіны, парэчкі, агрэсту, бружмелю, пад кветкавымі раслінамі пры хаце. Гэта ж так люба будзе глядзець, калі ўсё гэта, акуратненька дагледжанае, пачне зелянець, цвісці, абкідвацца пладамі!

***

Сама атайбаваўся я ў сваёй Зялёнай Дуброве, як на табе — званок з Мінска. Ірына Багдановіч «дакладвае», што закончыла каментар да Казіміра Сваяка. Нічога не зробіш, трэба ляцець — прачытаць, як яна гэта зрабіла, яшчэ раз прагледзець усю вёрстку кнігі і здаваць яе ў друк.

Калі я складаў у 1995 годзе план-праспект «Беларускага кнігазбору», Казіміра Сваяка ў яго не ўключаў. Апрача некалькіх «не лепшых» вершаў гэтага паэта-ксяндза, што з'явіліся ў друку пасля доўгага замоўчвання, я больш нічога яго не чытаў. І калі Ірына Багдановіч падахвоцілася падрыхтаваць для нашай серыі цэлы том гэтага амаль забытага заходнебеларускага паэта, я моцна засумняваўся, ці набярэцца ў яго годных твораў. Але не адгаворваў Ірыну: паглядзім, што янаназбірае.

Пачала яна гэтую работу яшчэ ў тым тысячагоддзі. А работа была немалая: каб сабраць усе творы Казіміра Сваяка, ёй спатрэбілася прагледзець процьму перыядычных выданняў, па якіх была распылена яго літаратурная спадчына. Шчыравала яна да самага апошняга часу, гэта значыць, больш за дзесяць гадоў — тытанічная праца!

Калі я прачытаў усё сабранае Ірынай Багдановіч, мае сумненні наконт выдання твораў Казіміра Сваяка ў серыі «Беларускі кнігазбор» адпалі.

Гэта — паэт, паэт са сваім адметным, хоць і не гучным голасам. Паэт высокага грамадзянскага пафасу. Зусім нездарма так высока цанілі паэзію Казіміра Сваяка яго сучаснікі, відныя дзеячы беларускага нацыянальнага адраджэння Антон Луцкевіч, Уладзімір Самойла, Адам Станкевіч, Вінцук Адважны.

Вельмі самабытная ў Казіміра Сваяка і проза, галоўным чынам творы малога жанру. І сёння надзвычай актуальна гучыць яго баявая публіцыстыка, з неаслабнай увагай чытаецца літаратурная крытыка.

Выхадам гэтай кнігі мы вернем у лона нашай літаратуры яшчэ адно незаслужана адрынутае з яе палітыканамі імя, светлае імя Казіміра Сваяка, аддaнага ваяра за Беларусь.

# Каляды

## Паэма



Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

***Івану Магеру***

*Над намі макі, каб жывым*
*Відаць было, дзе мы ляжым.*

**Джон Маккрэй, «У палях Фландры».**

**1**

*У ноч калядную я не праспаў вачэй.*
*Каляды маладзік кавалі ўсё танчэй,*
*Ноч знемагала — і займаўся золак*
*На змену ёй, каб патушыць хутчэй*
*Нясцерпнае святло каляных зорак.*

*Нясцерпнае святло каляных зорак*
*На шкле ваконным макамі цвіло,*
*А за вакном, адкуль святло плыло,*
*Да шыбін прыпадаў марозны морак*
*І ледзяныя губы грэў аб шкло.*

*Ён ледзяныя губы грэў аб шкло*
*І дыхаў так, што выстывала хата,*
*І так глядзеў, нібы Калядаў свята*
*З бядой, з жалобнай весткаю прыйшло...*
*У морака ў вачах стаяла страта.*

*У морака ў вачах стаяла страта,*
*Ён мёрзлай парай хукаў у кулак,*
*Малюючы на шыбе белы мак,*
*Як таямнічы, як магічны знак,*
*І мне ўсміхаўся морак вінавата,*
*Бо я той знак не разумеў ніяк.*

*Так, я той знак не разумеў ніяк,*
*Таму чакаў падказу ці парады,*
*Варажбіту каляднаму не рады,*
*Бо нават пернік макавы не ў смак,*
*Калі варожыць морак на Каляды.*

*Калі варожыць морак на Каляды*
*Са стратаю прарочаю ў вачах,*
*У хаце страх клубіцца па кутах,*
*І шчэрацца з кутоў звяры і гады,*
*І ў іх вачах таксама страты страх.*

*Ва ўсіх, ва ўсім клубіцца страты страх,*
*Мы ім глядзім адзін адному ў вочы —*
*І прагнучы спасцігнуць знак прарочы,*
*Я ўсёй крывёй адчуў паганскі пах*
*Спрадвечнай варажбы каляднай ночы.*

**2**

*Спрадвечнай варажбою на Каляды*
*Мне сняцца сны дзіўчае пары,*
*Калі ўсю ноч з Ярылавай гары*
*Кацілася па снезе зарапады*
*Слядамі, што пакінулі звяры.*

*Слядамі, што пакінулі звяры,*
*Крадземся мы, прыйшоўшы за звярамі*
*У гэты свет, каб ладзіць тут піры,*
*Звяроў назабіваўшы, і ўгары*
*Дым ад кастроў — і зорны дым над намі.*

*Дым ад кастроў і зорны дым над намі*
*Зліваюцца ў адно, і ў тым адным*
*Нас, летуценных, нас, сатканых снамі,*
*Не аддзяліць ад тых, хто ёсць мы самі,*
*І не адрозніць, як ад дыма дым.*

*Нас не адрозніць, як ад дыма дым,*
*Жанчын, мужчын, старога з маладым,*
*Калі сарваць апраткі, здзерці маскі,*
*Саскрэбсці з твараў скамянелы грым...*
*Ды гэткі жах не для каляднай казкі.*

*Мы апранемся для каляднай казкі*
*У скуры з поўсцю, пер'ем і луской,*
*І з'явімся на свеце з Божай ласкі,*
*Вярнуўшыся да існасці сваёй,*
*Хто воўкам, хто лісіцай, хто змяёй.*

*Хто, воўкам, хто лісіцай, хто змяёй*
*Абернемся, наладзім пір звярыны,*
*Паляжам на кілімы, на пярыны,*
*І тых, хто над, і тых, хто пад зямлёй,*
*Не абмінем, далучым да сябрыны.*

*Не абмінем, далучым да сябрыны*
*Жукоў смярдзючых, гнойных чарвякоў,*
*Каб грызлі косці і смакталі кроў,*
*Салодкай чалавечай свежаніны*
*Пасмакавалі на пірах звяроў.*

**3**

*Пасмакавалі на пірах звяроў*
*Мы ўсё, што бегла, плавала, лятала,*
*Пілі і жэрлі — і было нам мала,*
*І чвякаў, як адзін, мільярд ратоў,*
*І мерцвякоў зямля не накрывала.*

*І мерцвякоў зямля не накрывала*
*З васьмі мільярдаў тых, хто нам у рот*
*Глядзеў з галечы, з немачы, з нягод,*
*Каго жыццё аберуч ледзь трымала,*
*Нібы апухлы з голаду жывот.*

*Нібы апухлы з голаду жывот,*
*Зямля круглее зорак пасярод*
*У дыме крэматорыяў, і горкі*
*Плыве той дым з Дахаў у Амерсфорт —*
*І захінае неба, засціць зоркі.*

*Ён захінае неба, засціць зоркі*
*Над морам Рыб, над пасбішчам Быкоў,*
*Дзе сонцы згаслыя, як выбітыя коркі*
*Усейваюць касмічныя пагоркі,*
*Дзе цемрадзь Свету з чатырох бакоў.*

*У цемры Свету з чатырох бакоў*
*Віруе смерць, знішчаецца любоў,*
*А свет глядзіць у цемру летуценна:*
*Яна, якой бы цёмнай ні была,*
*Да першага праменьчыка святла*
*Каляднай зоркі... Вечнае нязменна.*

**4**

*У зменах часу вечнае нязменна:*
*Куцця! Каляды! Поўны цудаў дом,*
*Ялінка, нацярушанае сена,*
*Накрытае бялюткім абрусом*
*З аладкамі, мядовым абаранкам*
*З таўчоным макам!.. Божа, што за цуд!..*
*Як снег рыпіць! Які марозны гуд*
*Над храмам, скуль вяртаецца світанкам*
*Пасля ўсяночнай паспаліты люд,*
*А ўздоўж нябесных і зямных дарог*
*Ляцяць анёлы... Нарадзіўся Бог!*

**5**

*Ляцяць анёлы... Нарадзіўся Бог*
*Людзей, зайцоў, ваўкоў, лісіц, вавёрак,*
*І спеў званоў лунае сярод зорак,*
*Што на Зайчыны падаюць пагорак*
*І коцяцца з яго ў Ваўчыны лог...*
*— З Калядамі! — працёк праз вокны Морак*
*І лёг на столь, і на ўсе сцены лёг.*

*Ён лёг на столь і на ўсе сцены лёг,*
*Праз вокны цёк і плыў цераз парог,*
*Ён быў, як дым, а голас быў каменны,*
*І дымам тым ці голасам глухім*
*Падняўся дах, рассунуліся сцены*
*Да небасхілу з зоркамі на ім.*



«Над прорвай».
Малюнак Язэпа Драздовіча. 1931 г.

**6**

*На небасхіле з зоркамі на ім*
*Людскія цені крочылі... Хто ў чым,*
*У жоўтых скурах, чорных скурах, белых,*
*Мільёнамі па сцежках зледзянелых*
*Яны брылі, паўзлі з апошніх сіл*
*І падалі за край, за небасхіл.*

**7**

*За ценем цень за край, за небасхіл*
*Плылі між дзір касмічных і свяціл,*
*І кожны з іх маліўся, плакаў, енчыў...*

*— Рой чалавечы... Ува ўсёй пустэчы*
*Сусвету — ён адзін... І больш такога*
*Бог не ствараў, бо ён — памылка Бога,*
*Якой не даравў сабе Гасподзь,*
*Бо правіць чалавекам стала плоць,*
*Часовае змясцілішча для духа, —*
*Казаў мне Дым, якога я не слухаў,*
*Бо стуль, дзе небасхіл, дзе край зямлі,*
*Дзе людзі ў цемру, у нябыт плылі,*
*Насустрач ім ляцеў з нябёсаў зорных*
*Рой нелюдзей... У белых, жоўтых, чорных*
*Бліскучых скурах эліпсы, шары*
*Кацілiся з нябеснае гары,*
*І клаліся на крэўскія загоны*
*Квадраты, ромбы, прызмы, гексагоны,*
*Дэльтоіды... Кубоў, авалаў рой*
*Кружыўся над Ярылавай гарой,*
*Над Крэвам і над светам над усім...*

**8**

*— Люблю бываць у Крэве, — мовіў Дым. —*
*Не раз у ім бываў я маладым*
*У тым шчаслівым часе, калі тут*
*Жылі багі паганскія... На скрут*
*Пайшоў той час... Ні Кона, ні Сварога,*
*Вялеса і Ярылы, Перуна...*
*Сыйшла ў нябыт сівая даўніна,*
*Няма на свеце бога, апроч Бога*
*Адзінага, святога, ад якога*
*Жыццё і смерць, наканаваны лёс...*

*— Шары, якія кінуў Ён з нябёс,*
*Квадраты і кубы з міжзорнай прорвы,*
*Што — гэта?!.*

*— Змена сутнасці і формы*
*Жыцця. Цывілізацыя фігур*
*Геаметрычных. Без ніякіх бздур,*
*Без вашай пыхі, гонару, апломбаў.*
*Шары. Квадраты. Гексагоны. Ромбы.*
*З далёкіх светаў. З нежывых планет,*
*Дзе створаны быў штучны інтэлект,*
*Які й панішчыў там усё людское*
*Праз тое, што, адпрэчыўшы святое,*
*Што даў ім Бог, прагнулі людзі самі*
*Багамі стаць! А для чаго багамі?*
*Каб багацець! Каб жыць тлусцей, лацвей!*
*І вынайшлі такое, што мацней*
*За дух і плоць! Што толькі Чысты Розум!*
*І думалі, што будзе ён служыць,*
*Карміць, паіць... Адумаліся — позна!*
*Мацнейшы — не слуга. Тым больш, каб жыць,*
*Яму не трэба есці, піць... Не трэба*
*Ні хаты, ні зямлі, а толькі неба,*
*Дзе толькі зоркі, і дзе ён — як бог!..*

*— Чаму ж людзей ад згубы не зберог*
*Сапраўдны Бог? Не ўбачыў Ён падвох?*
*Грэх самагубства?*

*— Што без волі Бога*
*Бывае ў Божым свеце? Анічога*
*Не можа быць!.. Нагледзеўся Гасподзь,*
*Як людзі ішлі вякамі плоць на плоць*
*І дух на дух! Як кроў ліілі ракой!*
*І як двурушнічалі! Як адной рукой*
*Давалі, а другою забіралі!*
*Як дараваць ім Бога заклінaлі —*
*І грэбвалі ягоным: «Палюбі!»*
*Чужое не вазьмі! І не забі,*
*І не змані!.. Скрозь і заўсёды кралі!*
*Манілі! Забівалі!.. Бачыць Бог,*
*Што Ён трываў іх столькі, колькі мог,*
*Пакуль нарэшце ўцяміў, што памылка!*
*Што свет людскі падобны да абмылка,*
*Які лепш выкінуць, чым паміж рук лавіць...*

*Тады Ён і падумаў: «Як мне быць?*
*Я іх стварыў — і што рабіць мне з імі?..»*
*І сяк, і так Ён з караю мудрыў —*
*І ўвёў іх у спакусу стаць такімі*
*Магутнымі, як той, хто іх стварыў.*
*І гэтая спакуса іх згубіла...*

**9**

*«Хіба і нас рашыў Ён спакусіць?..*
*Не можа быць!.. — у скроні думка біла. —*
*Гасподзь не можа гэтак свет змяніць,*
*Каб замест нас квадраты ды авалы,*
*Дэльтоіды!.. Ён Бог, а не мяняла!..»*

*І ў цішы, што бывае прад навалай,*
*Пачуўся смех: «У кожнага з людзей*
*Квадрат пляцэй або авал грудзей.*
*У нечым падабенства застаецца...»*

*Я ўпершыню пачуў, як змрок смяецца.*

**10**

*Пачуўшы ўпершыню, як змрок смяецца,*
*Я смех Сусвету ўчуў... Нідзе нам не падзецца*
*Ад жартаў цемры!.. Спраўдзяцца яны*
*Для роднай і не роднай стараны,*
*І ўсё ж у час, калі нас Бог пакіне,*
*Лепш дома быць, хоць дом — як на чужыне,*
*Бо ключ ад твайго дома не ў цябе,*
*І ў ім, хто хоча, скача, посуд б'е*
*І рве ў шматкі сямейныя альбомы!..*
*Але — дом твой! Уся радня ў вакне!*
*Вунь брат... сястра... І я спытаў, як дома:*
*— Чаму Гасподзь у нашай старане*
*Пачаў свой Страшны Суд?..*
*— А чаму не?*
*У вас не забіваюць? Не крадуць?*
*Не парушаюць запаведзі Бога? —*
*Цёк ува мне атрутна, быццам ртуць,*
*Цямрэчы голас. — Нават найсвятога:*
*Айчыны не шануюць! Напаказ*
*Павага і любоў! Вы дзеці здрады!..*

*Такога не стрываць было...*
*— Няпраўда!*
*Айчына — Маці Божая для нас! —*
*Ускрыкнуў я, адчуўшы, як баляць*
*У горле словы.*

*— Маці?.. Может, мать? —*
*Пытаўся Морак з'едліва — і цёк*
*За Магераў пагорак, у той бок,*
*Дзе за пагоркам — Воўчая лагчына,*
*Дзе на краёчку цемрадзі жанчына*
*Стаяла... З белым макам у руках.*
*А каля ног яе клубіўся прах*
*Сварога, Кона, Перуна, Ярылы...*

*— Вось лёс ваш... — Змрок казаў. —*
*Адны магілы.*
*Нават багі памерлі. Прах ды пыл.*

*— Яны ўваскрэснуць!*
*— Як? Не ўваскрасаюць*
*Забытыя! Каго не памінаюць!*
*А вы святых не помніце магіл!..*

*— Дапамажыце... Жыць не маю сіл... —*
*Сказала родным голасам жанчына*
*З абрысамі знаёмымі. — Адна*
*Я засталася ў свеце.*

*«Хто яна?..» —*
*Я ўспамінаў.*

*І Змрок сказаў:*
*— Айчына.*
*Не пазнаеш?..*
*Ёсць кроў зямлі й матуль.*
*І па крыві ёсць полькі, італьянкі,*

Заканчэнне на стар. 5 »

# Каляды

## Паэма

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 4

*Японкі і францужанкі, гішпанкі,
А гэтая не ведае, адкуль
І хто яна?.. Забыты калыханкі,
Забыты словы мовы векавой,
Той крэўнай, спеўнай мовы, на якой
Яна спявала калыханкі дзецям
І на якой вучыла іх спяваць...*

*— Я замінаю ўсім на гэтым свеце...
На свеце тым не буду замінаць, —
Прамовіла Айчына. І, як вецер,
Ад замка голас быў:*
«Как знать, как знать, как знать...
Здесь Русь стоит. И будет Русь стоять
Равно на этом свете и на том.
Где мы, там Русь. И хоть потоп потом».

*Знаёмы голас. Ён крычаў, як птах,
У сутарэннях замка па начах.
Князь Курбскі. Прывід князя,
што з Масквы
Уцёк на паратунак галавы
Ад рускага цара... Сыйшла цароў пара,
Ды ўсё адно ён за свайго цара —
Хай нават за Жахлівага Івана...*

*— Прымі мяне, Ярылава гара! —
Укленчыла Айчына... Як з туману,
Як з лесу, калі цемра ўкрые лес,
Паўсталі на гары Ярыла, Кон, Вялес —
Паганскія багі! Усёй гурбою!
І ў кожнага ў руках быў белы мак,
І белым стала неба над гарою,
І ўспомніў я, што гэта даўні знак
Нябыту. Цемры. Вечнага спакою.*

*— Вы чулі?.. Я не цямлю ўжо сама,
Ці ёсць я тут?.. Ці тут мяне няма?
Тутэйшая... Што гэта за імя?
Ці мая назва?.. Ці мая мянушка?..
Ці гаспадыня я? Ці ў нечым доме
служка?.. —
Пыталася Айчына — і багі
Укленчвалі пра ёю... Як снягі,
Былі яны ўсё белыя, сівыя,
А прывід князя крыкнуў:* «Здесь Россия!
Здесь был и будет русский дом!..».

*Агнём
Мне паласнула сэрца! Горкі ком
У горле стаў... Той самы, што па страце...
Па смерці маці... Тут... У роднай хаце,
Дзе ні падмурку з вечных валуноў,
Ні сцен, ні даху... Дзе спакон вякоў
Усё, на чым стаіць жыццё — любоў,
Дзе ўсё цяпло жыцця — яе праменні,
Дзе ад стварэння свету, з даўніны
Яна — надзеі нашы і памкненні,
Яе праменні — нашых сцен бярвенні
І нашага падмурку валуны.*

*— Ты помніш, як каціліся яны
Ва ўсе бакі, за сонца і за поўню? —
Ярылава гара спытала. — Помніш
Ты слёзы першыя?.. Свой першы смех?..
Як высах першы дождж, растаў першы
снег,
Як ты праз дождж той, праз той снег
прабег,
І як сказаў: «Не стане мамы, таты,
Але не я ў тым буду вінаваты,
Паляжа не на мне смяротны грэх».*

*— Так, помню...
— Што ж... Ты хораша тады
Сказаў. І грэх цяперашняй бяды
Не на табе. Яго табе дарую,
Як сам сабе яго даруеш ты,
Ці не даруеш ты сабе самому...*

*— Пустое, — Змрок сказаў. — Апалыя лісты.
Пажоўклыя сямейныя альбомы.*

**11**

*Пажоўклыя сямейныя альбомы
Гартаю я. Тут чалавечы рой.
Забойцы з Мюнхена. Бандыты з Аклахомы.
Гандляр з Ганконгу. З Лондана герой
Вайны Другой сусветнай. Не апошняй...
З Расіі злодзеі і куртызанкі з Польшы,
Распуснікі з Галандыі і Ганы,
З Нью-Ёрка і Стамбула наркаманы,
П'янтосы з Вены, махляры з Афін,
Стваральнікі самазабойчай зброі,
Натхняльнікі сусветнага разбою —
І кожны чыйсьці бацька, нечы сын,
І нечая дачка, чыясьці маці...*

*А гэта я. Мне два гады. Я ў хаце,
Прывязаны за ножку пад сталом
Вяроўкай... Я адзін. Пусты ўвесь дом
Ад раніцы. Бо маці ў полі жне,
І бацька ў полі, толькі на вайне,
Бароніць лес наш, птушак і звяроў,
Маіх, што пад сталом са мной, багоў...
Вялес, Ярыла тут... І, выразаны з дрэва,
З паўмесяцам і зоркай, гербам Крэва,
Вярхоўны Бог майго сусвету Кон...
Сусвет мой пад сталом. Ён тут здавён,
З пары, калі быў вырваны святлом
З цямрэчы я... Цяпер за тым сталом,
Што да святла стаіць адным канцом,
Другім канцом хаваецца ў цямрэчу,
Сумоўлюся з сабой я — і пярэчу
Сабе самому... Больш няма каму...
Хіба што Богу... Я кажу яму,
Што калі б стаў я богам, сам тады
Я б знішчыў свет, бо гэта свет бяды,
І Богам ён быў створаны дарма,
А Бог мне кажа, што Яго няма,
І што стварыць нічога Ён не мог,
Таму не можа й знішчыць анічога...*

*Яго няма. І ўсё адно Ён — Бог.
Няма на свеце Бога, апроч Бога.*

**12**

*Няма на свеце Бога, апроч Бога.
Ані свайго няма, ані чужога.
Ніякага! І ўсё адно Ён — Бог.
А значыць, усё тое, што Ён дзее,
Ён дзее справядліва. Ліхадзеі
Мы на зямлі. І заслужылі мы,
Каб Ён пазбыўся нашае гурмы.*

*Не тое, што ствараў Ён, чалавек.
І як пачаў Ён чалавечы век,
Так можа скончыць. Выпадковы госць
У Божым свеце кожны, хто ў ім ёсць,
З кім Божа і гасцінным можа быць,
І выйсці госця можа папрасіць,
Бо анічога ён гасцям не вінны,
І не маліў бы са сваёй віной
Я ні пра што Яго, каб не жанчына,
Што ўкленчыла ў малітве прад гарой,
Каб гэта не была мая Айчына,
І каб на дзень народзінаў да Сына
Бог не прыйшоў... І ўстаў я з-за стала
Каляднага:*

*— Гасподзь! Паміж дабра і зла
Ты пасяліў нас! Між святлом і цемрай...
На лобе Твайго Сына нашы церні.
І рукі нашы — у Яго крыві.
Я не прашу: даруй! Але яві...
Не, не любоў, а толькі мудрасць Бога:
Калі нідзе не стане анічога,
Апроч адной бясконцай пустаты,
Калі не будзе нас — кім будзеш Ты?
Не літасцівым станеш і не грозным...
Перад табой ніколі Штучны Розум
Не ўкленчыць, каб прасіць Цябе, маліць,
Каб жаліцца — і каб Цябе любіць,
Ці ненавідзець... Хай ты нас прымроіў
Не тымі, хто мы ёсць, ды ў чалавечым роі*



Малюнак Язэпа Драздовіча

*Ты ўсё ж пчаляр. На пасецы сваёй
Ты Бог! А кім без пасекі Ты станеш?..*

*— Ты што вярзеш! — усклікнуў Змрок.
— Ты цяміш,
Што мелеш?!. — усклубіўся ў Змроку
страх. —
З цярпення Бога вывесці не раю!..*

*Ён Змрок. Але таксама — пыл і прах.*

*— Не дай згібець, прапасці, знікнуць краю
Бацькоў маіх! Чужой не запалі
Над намі зоркі! Не згані з зямлі,
Палітай нашым потам і крывёю, —
Прасіў, маліўся я, і ўсёй зямлёю,
Лагчынай Воўчаю, Ярылавай гарою
Дыхнула Крэва... Моўчкі слухаў Бог.*

«Царя проси. Он так, как Бог, не строг, —
*Гукнуўся прывід.* — Дело тут такое:
Отдай царю, что скажет. Остальное
Твоё... Коль не буянить дашь зарок...» —
*І зноў пачуў я, як смяецца Змрок:
Як нехта рэзаў сук пілой тупою,
Ці хтосьці скуру ссохлую ўспароў...*

*Ён Змрокам быў, ён быў царом цароў,
Але не Богам і не Божым Сынам,
Які прамовіў: «Ойча мой! Нявінна
Ні ў чым жанчына гэта. Забяры
Яе адсюль, не дай счакаць пары,
Калі здабычай стане, паланянкай...»*

*І моўчкі рушыў Божа да гары,
Што неба падпірала над Крэўлянкай,
Адвечнаю ракой крыві і слёз,
Абняў жанчыну, што прад ёй стаяла,
Падняў з каленяў... На вяршыню ўзнёс...
І недзе між аблок яе не стала...*

*І, як яна, Вялес... Ярыла... Кон —
Нібы паветрам сталіся ў паветры...*

*«Відзежы, — думаў я. — Трызненне. Сон.
Айчына і багі... як прах... як пыл
на ветры —
На скон... на скон... на скон... на скон...
на скон...»*

*«Праклён!..» — як громам, скаланула нетры,
Агонь пацёк з Ярылавай гары,
І чорныя ўсклубіліся вятры
Самім сабе насустрач, наўздагон
Самім сабе — па ўсім па белым свеце,
І чуўся чорны крык скрозь чорны вецер:
«Праклён! Праклён! Праклён! Праклён!
Праклён!
Не родныя былі ў Айчыны дзеці!
Не Божыя! Таму і прадалі!..» —
Крычала Цемра. І вятры мялі.*

**13**

*Крычала Цемра. І мялі вятры.
— Гэй, птушкі! Рыбы! Гады! Гэй, звяры!
Дзе жыць нам без Айчыны? — я пытаў.
Маўчалі ўсе. І толькі Змрок паўстаў
Над нематою, і азваўся Змрок:
— Жывіце там, дзе не патрэбны зрок.
У цемрадзі. Сляпому я — Айчына!*

*Ён так глядзеў пустэльнымі вачыма,
Як зеўрыў на мяне Ваўчыны лог...
— Жыццё пражыў ты коратка, нішчымна,
А я адолеў вечнасці парог! —
Узняўся ганарліва Змрок — і лёг
На лог і на гару, на цэлы свет,
Дзе я шукаў між зорак і планет,
Сярод якіх Зямля — іголка ў стозе,
Лятучая пылінка пры дарозе,
Айчыны след... Прад ёй ці ў даўніну,
Ці ў будучыню палягла дарога?*

*— Як без Айчыны нашу старану
Нам называць?.. — пытаўся я ў нікога,
Бо ўжо баяўся запытаць у Бога,
У Змрока, у вятроў, што ўсё мялі...
І Голас быў... З нябёс і з-пад зямлі:
«Вы за Айчыну кроў не пралілі!..
Праліце за яе хаця б адну
Крывінку. І Айчыну вам вярну».*

*Ён клікаў на Айчынную вайну!
І каб крывёй скупілі мы віну,
Я пагукаў братоў маіх, сясцёр...*

*Яны прыйшлі і развялі касцёр,
Але не для вайны, а для цяпла,
Бо холад быў і сцюжа лютавала...*

*Айчыны не было... Радні не стала...*

*І вены ўскрыў я... Кроў цякла, цякла
Па ўсёй зямлі да самага крайка,
І поўнілася чырванню рака
Крэўлянка, што праз Крэва працякала
І ў неба за крайком зямлі плыла,
Але Айчыну неба не вяртала:
Або крыві маёй было замала —
Ці самагубнай кроў мая была.*

**14**

*Ці самагубнай кроў мая была,
Або крыві маёй было замала —
Рака жыцця мялела, астывала
Між вечных берагоў дабра і зла,
І я, хоць пульсавала кроў, жыла,
Ужо не адчуваў цяпла жывога,
А толькі боль парэзу нажавога
І страх сыходу... І майго чала
Крануўся нехта: «Прыйдзе дапамога...
Ты патрывай...».
І я трываў, як мог...*

*Хто гэта быў? Айчына? Маці? Бог?
І калі Бог, дык абяцанні Бога
Ці спраўдзілася ўжо, ці не яшчэ?..*

*Няведама... Рака яшчэ цячэ....*

**15**

*Яшчэ цячэ рака ў Ваўчыны лог.
Жыццё і смерць стаяць на раздарожжы.
Наўрад ці нас звядзе са свету Бог,
Але саміх сябе мы звесці можам.
Ці звесці Бога. Што страшней яшчэ...
Але пакуль Ён тут. Святло і цемру тчэ,
І нашы лёсы... Вунь Ягоны след
Каля гумна. Дзе яслі. Дзе ў парозе
Калыска, у якой сабраў Ён свет,
Растрэсены, як сена на дарозе.*

*Паклаў Ён свет пад белым абрусом
Каляднага стала... Святочны дом,
За абразом аплаткі, зёлак вехаць,
За вокнамі марозны рып саней,
Цямнее дзень, а зорка ўсё ясней,
І ўсё відней, куды ісці і ехаць,
Калі спакусы нам не засцяць зрок,
Ці праз гардэчу не мутнее розум,
І мы ідзем не на святло — на змрок...*

*Як хрумстка пахне снегам і марозам!
Бог нарадзіўся! Звон над храмам! Гуд!
І крэўным словам славіць крэўскі люд
Яго з'яўленне! І чакае цуду,
Бо там, дзе Бог, там мусіць быць і цуд,
І я малюся:
— Божа! Калі тут
Не стане маёй мовы, майго люду,
Няхай не я ў тым вінаваты буду,
Няхай за гвалт у роднай старане
Смяротны грэх паляжа не на мне,
Хоць ён і цісне сэрца мне з-пад спуду,
І я віны пазбыцца не магу
Прад маці, прад Айчынаю ў даўгу,
Сплаціць які ніхто, апроч мяне, не можа,
Ды ўжо атрамант сцёк з майго пяра,
І калі скажаш Ты, што мне пара,
Гукну гару, пагрукаю ў падножжа:
Прымі мяне, Ярылава гара!
І супакой у Крэве мяне, Божа!*

***Каляды каталіцкія 2023 —
Каляды праваслаўныя 2024,
Польшча, Уроцлаў.***

# Новыя фрэскі



Барыс ПЯТРОВІЧ

## Поўня

дарога была шырокай, далёка наперад прамой, як дзіда, і проста па-над ёй на даляглядзе вісела нізка над зямлёй, яшчэ не паспеўшы падняцца ў вышыню, незвычайна вялізная поўня: такая аграмадная, што, здавалася, займала паўнеба — ясна-ясна на ёй была відаць кожная плямінка, і можна было паверыць, што яны, гэтыя плямінкі, і ёсць месяцовыя моры ды азёры

мы з татам ішлі дамоў, да хаты заставалася яшчэ далекавата, і міжволі я заглядзеўся на ўражліва прыгожую, яркую, жоўта-чырвоную поўню перад вачыма, і думаў: зусім магчыма, што на ёй і сапраўды пабывалі амерыканцы, яна ж так блізка — во, як на далоні, і згадваў астранаўта, які з карабельнай лесвічкі першым ступіў на паверхню Месяца і прамовіў словы, якія ўразілі мяне і запомніліся: гэта адзін маленькі крок для чалавека, але найвелізарны скачок для ўсяго чалавецтва; я не бачыў кадры, як ён зрабіў гэта, але яскрава ўяўляў і той крок, і першы след — адбітак падэшвы абутку чалавека, уціснуты ў Месяц, і нават лёгкі сухі туманок пылку над ім

мне было дзесяць гадоў, і гэтая падзея, як і палёт Гагарына, тады дужа ўзрушыла мяне, і я, як шмат хто з маіх раўналеткаў, усё яшчэ марыў і хацеў у будучыні стаць толькі касманаўтам і нікім больш

тата, які, пэўна, таксама ўвесь час, як мы выйшлі на прамую дарогу да хаты, любаваўся поўняй, што ваўсю раскашавала над зямлёй ды трохі навязліва і назойліва-дакучліва, хоць і не слепячы, як сонца ўдзень, асвятляла нам шлях сваёю жаўцінёю і фарбуючы ёю ўсё вакол, разумеючы, што і я цяпер дзіўлюся на поўню, раптам узрушана-мройліва прамовіў:

«ах ты, госпадзе, якая ж сёння прыгожая поўня! як у маім дзяцінстве... можна разглядзець на ёй усё, што ў іншыя ночы схавана...»

«а што схавана на ёй у іншыя ночы?» — спытаў я

«а ты прыгледзься шчважлівей, што бачыш?»

я ўгледзеўся пільней, але... бачыў тое, што і раней: толькі большыя і меншыя рознаформныя плямы ды плямінкі, таму, схітрыўшы, сказаў:

«бачу моры і азёры, горы і даліны...»

тата хмыкнуў і ўсміхнуўся, яму, мабыць, спадабаўся адказ, але ён прамовіў:

«ну не хітры, ты бачыш большыя і меншыя, цямнейшыя і святлейшыя шэранькія плямы, так?»

«так», — нехаця пагадзіўся я, бо карцела знарок паспрачацца з ім, і нават ведаючы, што гэта няпраўда, ведаючы, што там нічога такога няма, сказаць пра рыбінак, якія плешчуцца ў тых марах і азёрах, пра дрэвы, якія трапечуць-шумяць лістотай вакол іх... і далей — пра птушак, якія пералятаюць з галінкі на галінку і шчабечуць-перагаворваюцца між сабою

«а ты паспрабуй у думках злучыць плямкі адну з адною, што атрымаецца?» — параіў тата

я паспрабаваў злучыць — нічога не атрымлівалася, не быў круг поўні падобным на плямісты футбольны мячык, як мне ні хацелася ўбачыць... ну, можа, хіба, на блін толькі, дастаны мамай з печы — з прыпухлымі плямінкамі-прыпалінамі зверху... так, на толькі спечаную аладку быў ён вельмі — смачна — падобны

тата зразумеў маё маўчанне і падказаў:

«а ты трошкі нахілі галаву налева і паспрабуй разгледзець на правым баку поўні цень, нібы постаць, падобную да абрысаў чалавека»

я нахіліў галаву, трошкі прымружыўся, каб плямкі сталі цямнейшымі, і... убачыў — ага, вось яно: тулава, ногі, рукі, галава: плямы зліліся і ўтварылі фігуру чалавека, які стаяў, схіліўшыся ўлева, і нібыта глядзеў уніз на іншы край поўні, дзе, падавалася, нешта ляжала, скурчанае...

«бачу, бачу!», — не стрымліваючы радасць сказаў я

«калі я быў, як ты, малы, мне мой бацька таксама паказаў гэты малюнак на поўні і сказаў, што ў ім нібыта адбіваецца біблейскі сюжэт: брат брата забівае — Каін Авеля»

што такое Біблія і хто такія Каін з Авелем мне тлумачыць не трэба было — пра іх мне яшчэ да школы расказвала бабуля; я прымружыў вочы шчыльней і цяпер, як мне падалося, выразна-выразна ўбачыў на поўні чалавека, які трымаў у руках нешта, скіраванае да плямы ўнізе

«а чым ён яго забіў? шабляй, мечам?»

«мне бацька казаў — віламі закалоў... а чым жа яшчэ можна было ў той час... не ведаю, але, прыглядзься, вельмі ж падобна, што брат брата менавіта віламі забівае: бачыш, ад рук ягоных быццам бы нешта цягнецца ўніз... пра гэта чуў я і ад іншых нашых людзей пазней, аднак, мне думаецца, няважна чым і як забіў — галоўнае тут, што брат брата...»

«брат брата... а за што?»

«пазайздросціў брату, зноў жа, няважна за што, галоўнае тут сама зайздрасць, якая з тых часоў нікуды не знікла, якая была, ёсць і застаецца па сёння прычынай сварак, боек, смерцяў і... войнаў між людзьмі...»

я тады паверыў тату: сапраўды, няважна, за што забіў: за зайздрасць ці любоў, і не істотна чым: віламі, сякерай, аслінаю сківіцай (гэта я даведаўся пазней); галоўнае, што — брат брата...

а тата працягваў:

«...а мы хочам, каб на зямлі быў мір... хочам, каб браты не забівалі адзін аднаго, не йшлі вайной, не палілі, не руйнавалі гарады і вёскі... — уздыхнуў цяжка, — пэўна, ніколі не зменіцца гэта на зямлі, хоць поўня заўсёды перад намі, як вечная сведка, як доказ вечны, як дакор усім нам, як напамін і навука: так не павінна быць... — тата са скрухай пагляздзеў на мяне і дадаў: — не, мусіць, ніяк не змяніць гэта... пакуль не зведзена з душ і галоў нашых тая самая зайздрасць да суседа, да брата... і не змяніць аж датуль... пакуль, не дай таго Бог, не згіне апошні чалавек на планеце, забіўшы свайго апошняга брата...»

мне стала страшна: я не паверыў тады тату, і не хачу верыць у тыя ягоныя словы пра апошняга чалавека на зямлі і цяпер — мне хочацца верыць у нейкі вышэйшы сусветны розум, у прасвятленне чалавецтва і што прыйдзе нарэшце дзень, калі не будзе больш на зямлі праліваецца кроў увогуле, а не толькі братоў, а слова «вайна» застанецца ў мінулым, у гістарычных слоўніках...

даўно ўжо няма таты, я не стаў касманаўтам, і ніхто за паўстагоддзя так больш і не зляцаў на Месяц... а войны між людзьмі не спыняюцца, і жыццё мне ўсё доказней і доказней даводзіць іншае: сапраўды, ніщто за тысячагоддзі не змянілася і не змяняецца на планеце Зямля пад маўклівым пільным — напамінальна-дакорным — вокам Поўні: брат б'ецца з братам, брат брата забівае, і разуменне ды прасвятленне не прыходзяць

## «Замова»

словам сваім ты ўдарыў мяне так, што я адляцеў на метр, зачапіўся за крэсла і ўпаў на спіну, галавой зачыніўшы дзверы

ха-ха-ха! — пачуў я, калі вярнуўся да свядомасці — ты яшчэ рагатаў, значыць, палёт мой у непрытомнасць быў кароткім, літаральна пару секундаў

ты не спалохаўся, ты радаваўся сваёй моцы, цябе рассмяшыла маё падзенне, ніщто ў табе не варухнулася ў бок спагады да яшчэ нядаўна не чужога табе чалавека, які, сцяўшы вусны ад болю, ляжаў на падлозе, не ў змозе падняцца

ты не падаў мне руку

я ляжаў з заплюшчанымі вачыма і ўспамінаў, якое ж тваё слова так моцна ўдарыла мяне, так штурханула, так адкінула мяне, і не мог яго ўзгадаць: мая памяць засталася недзе там, у мінулым, і не вярталася да мяне

крыўда на цябе паступова перарастала ў крыўду на сябе самога — бездапаможнага, як перакуленая чарапаха, як жук, што ляжыць дагары лапкамі і смешна варушыць імі

я зразумеў, чаму ты смяешся

і ты выляцеў праз вакно, на развітанне неўразумела рагатнуўшы і пырснуўшы слінай мне ў твар

спадзяюся, і ты не запомніў, не паспеў усвядоміць маё слова, якое выкінула цябе з...



Фота science.com

## «Са спробаў акрэсліцца»

*1. Ісціна*

праўда — самае глыбокае возера, у якога няма дна: нырай не нырай — не дасягнеш, а выспачкі — міражы, мана

праўда — адзінкавая рэч, аднабаковая, плоская і нецікавая ў сваёй непаўторнай аднастайнасці

праўда — тое, што нас ратуе ўрэшце рэшт: выратавальнае кола сярод мора маны

праўда — самае заблытанае з вечнага, самае недасягальнае з таго, што побач

праўда — тое, што нам здаецца, толькі нам і больш нікому, толькі тады гэта праўда

праўда — адзінае, што не здраджвае, адзінае, што не знікае ў прасторы, адзінае, што рана ці позна вяртаецца

праўда — сон цемры, жах святла, якія нас бачаць у сабе і не разумеюць, што гэта мы

праўда — адзінота самотніка сярод зачыненага на выходныя рынку, і толькі смецце вакол нагадвае пра тое, што недзе ёсць і іншыя людзі

праўда — крыніца натхнення апазіцыйных палітыкаў, вечны рухавік пераменаў да лепшага, нават калі знакі даўно памяняліся: «мінус» на «плюс» ці «плюс» на «мінус»

праўда — забытая ў калюжыне шына, у якой пасялілася жабка; побач на свежаскошанай пахкай траве ходзіць пад даждҗом мокры бусел, а жабцы цёпла і ўтульна, бо ў яе ёсць кола вакол

праўда — 1+1=2.

*2. Напамін*

памяць — гэта балота, у якім б'юць крыніцы крыўды, з якіх нараджаюцца рэкі, што цякуць у мора адзіноты.

памяць — першы крык і апошні стогн, і ўсё, што між імі.

памяць — кропачкі-выспачкі таго, што не забылася ў моры-акіяне пражытага і назаўсёды — бясследна — страчанага.

памяць — адзінае ў гэтым свеце, што належыць толькі табе, і адзінае вечнае, што застаецца, калі не стане цябе.

памяць — свежавыкапаная магілка, над якой яшчэ няма крыжа.

памяць — дарога назад, што вядзе нас наперад, падарожжа ў часе на машыне часу, але толькі туды, дзе ўжо быў.

памяць — пераход з «ёсць» у «было», які адбываецца ў дадзены момант: кожная новая літара, напісаная мною і прачытаная вамі, ужо мінулае.

памяць — самае нетрывалае і некіруемае з дадзенага нам Богам: яна сама выбірае, што ёсць важна і чаму застацца, а што выкінуць, нібыта і не было таго.

памяць — поўня ў небе, і я іду залатым іскрыстым снегам скрозь ноч і мароз дадому, а высокая поўня ўжо збоку.

памяць — і жабка, якая жыве ў забытай у калюжыне шыне, і мокры бусел, які ходзіць вакол па свежаскошанай траве вакол шыны, і шына.

памяць — 1+1=0.

*3. Творчасць*

проза — гэта козлік, які скача з гары ўніз і ногі ягоныя падломваюцца ад страху;

проза — гэта верабейка, які купаецца ў пяску: ніхто яго не бачыць, толькі купка пылу ўздымаецца над зямлёю, і там, у пыле, можа быць усё, што заўгодна, але не верабейка;

проза — гэта бяздомныя дзеці, што ідуць скрозь лес, на другім канцы якога ля рэчкі стаіць піянерскі лагер поўны дзяцей без бацькоў;

проза — гэта дзверы, расчыненыя ў ноч, і што там, у цемры, не ведае ніхто, апроч саміх дзвярэй;

проза — гэта ліфт, што засеў між паверхамі, бо не хоча ні апускацца, ні падымацца вышэй;

проза — гэта ралля, узараная і засеяная, аднак ці вырасце што на гэтым полі — ніхто не ведае;

проза — гэта трава, прымятая юнымі целамі, гэта атава, што адрасла, нягледзячы на блізкую зіму;!

проза — гэта ружа, якая вось-вось расцвіце, але ці расцвіце залежыць не ад яе;

проза — гэта кожны з нас, хто думае пра ўчора і заўтра, а засынае сёння;

проза — гэта жабка ў забытай у калюжыне шыне, якой хочацца маўчаць, а яна квакае;

проза — 1+1=100.

## Памяць

хто з'явіўся на гэтым свеце раней: я ці мае бацькі? я ўпэўнены, што ўжо быў, калі іх яшчэ не было; і гэта ісціна абсалютна вядомая мне, гэта аксіёма, што не патрабуе ніякога доказу, гэта працей за пошук адказу на пытанне: што было раней — курыца ці яйка

бо аднязначна:

я памятаю Зямлю ў імгле — блакітную-блакітную: гэтакі размаляваны пінг-понгавы шарык, падвешаны ў цемры;

памятаю свае першыя крокі па яе аксамітна-зялёнай — ласкавай — траве, лёгкі вецярок, які шлакоча цела, трэпле, перабірае валасы;

памятаю сваю першую жанчыну — яна не была маёй маці, гэта дакладна, маёй маці яшчэ не было і бацька мой яшчэ не нарадзіўся — усё тут толькі пачыналася (з курыцы, не з яйка);

памятаю першы крык майго сына, народжанага ад зямной жанчыны — ад яго да майго бацькі яшчэ доўгі шлях праз гады і тысячагоддзі, які потым назавуць... эвалюцыяй

усё гэта будзе потым, і потым буду я цяперашні, каб спытаць сябе: хто з'явіўся на гэтым свеце раней: я ці мае бацькі? і адказаць, не сумняваючыся ні хвілі: я...

# Лупік, Рабы і Міва



Уладзімір ВАСЬКО

Да прадаўшчыцы сельмага ў вёсцы Гаманы Мівы заляцаліся адначасова трактарыст Лупік і вадзіцель грузавой аўтамашыны Рабы. Рабы і на самай справе быў трошкі рабаваты, ці, па-руску кажучы, канапаты. Лупік жа высокі (каля двух метраў), стройны. Праўда, на свой рост крыху вузкаваты ў плячах. Рабы ж даставаў яму галавою толькі да падпахі.

Яны амаль штодзень у вольную хвіліну забягалі ў сельмаг.

Міва — ні даць ні ўзяць лялька Барбара, з блакітнымі вачыма і русявымі валасамі — аднолькава шчыра ўсміхалася ім і абаіх культурна абслугоўвала.

Лупік, калі яго не прыспешвала работа, узяўшы пакупку, іншы раз затрымліваўся і спрабаваў паразмаўляць з Мівaю.

— Учора, — неяк казаў ён, — ідучы дахаты, трапіў пад дождж і намачыў шапку. Павесіў на плот сушыцца — дык вераб'і яе падзяўбалі...

— Спачуваю, — хіхікнула Міва.

— Як ты думаеш, ці пойдзе сёння дождж? — спытаў ён яшчэ.

— Не ведаю. Я ж не сіноптык.

— Хоць каб не было.

— Я таксама за сонечную пагоду.

І яшчэ ён сказаў:

— Раніцай праязджаў каля твайго магазіна і згубіў недзе гайку ад трактара. Ты не знаходзіла яе?

— Не, не бачыла...

— Шкада...

Рабы выступаў больш па-дзелавому:

— Не надакучыла табе яшчэ гандляваць у гэтым магазіне?

— А чаго? Мне тут добра.

— Можа, пераехала б у горад?

— А бацькі? На каго я іх пакіну?

— Яно то і ў вёсцы можна жыць. Вунь у Бердаўцы будуюць аграгарадок. Кажуць, маладажонам будуць выдзяляць кватэры...

Напачатку Міва нічога не падазравала, аднак з цягам часу прыкмеціла, што Лупік і Рабы клююць на яе, і стала больш уважліва прыглядацца да абаіх. Асаблівай ганьбы Лупіку яна не давала: рослы, не брыдкі на твар, спраўна водзіць трактар... Толькі вось гэтыя плоскія размовы пра вераб'ёў, гайкі, пагоду... «Ці вытрымаю я іх? — думала Міва. Ну а Рабы? Гэты як гаворыць — здаецца, гладзіць па сэрцы».

У Гаманах моладзі станавілася ўсё менш, але клуба пакуль што не зачынялі на замок. Сюды прыходзілі хлопцы і дзяўчаты з суседніх вёсак, і чалавек дваццаць збіралася.

Лупік, які найчасцей запрашаў патанцаваць Міву, канечне, вылучаўся сярод іншых. Аднойчы, нахіліўшыся, ён ціха шапнуў ёй на вушка:

— Міва, выходзь за мяне замуж.

— Ах, Божа! Не чакала я такой прапановы.

— Не пашкадуеш...

— Падумаю.

У той жа вечар Рабы, якому ўдалося толькі адзін раз запрасіць на танец Міву, ласкава паглядзеў ёй у вочы і шчыра прамовіў:

— Міва, як закончацца танцы, прыходзь пад тую тоўстую дзікую грушу, што расце за вёскай. Я там буду цябе чакаць.

— Пагляджу...

Лупік скоса зірнуў на Рабога і, мусіць, раўнуючы, выразам твару хацеў яму прыгразіць, але дзяўчына, з якой ён танцаваў, загаманіла:

— Мабыць, хутка закончацца танцы. Бачыш, гарманіст стаміўся.

І Лупік перавёў позірк на гарманіста. Хутка той сапраўды скінуў рамяні з плячэй, зашпіліў мяхі на вузенькую дзяжку — і гэта азначала, што пара разыходзіцца.

Рабы першым выйшаў з клуба, за ім яшчэ некалькі чалавек і Міва.

Міва азірнулася, убачыла, як перастаўляе на прыступках уніз свае «мыліцы» Лупік, і драпанула, баючыся, што ўвяжацца праводзіць яе дахаты.

А Рабы, прамінуўшы свой дом, пайшоў пад грушу. Ён там то таптаўся на месцы, то хадзіў вакол дрэва, пазіраючы ў бок вёскі, чакаючы, ці хутка пакажацца ў начным сутонні Міва. Паводле яго меркаваннаў, яна трошкі марудзіла. І ён перажываў.

Ды неўзабаве дзявочая постаць у белай сукенцы мільганула на выхадзе з вуліцы і пачала прыбліжацца.

— Зачакаўся? — спачувальна прамовіла Міва.

— Хваляваўся. Думаў, не прыйдзеш...

— Я не абяцала, але падумала: ходзіш там адзін... І рашыла сустрэцца.

Ён пяшчотна абняў яе за плечы і прытуліў да сябе. Нейкі час слухалі толькі біццё сваіх сэрцаў.

— Якая цішыня, які месяц, — расчуліўся Рабы.

— Усе ўжо, напэўна, леглі спаць, і толькі мы тут...

Але ўдалечыні, па дарозе ў Белундзі, загучала песня:

*Ўсе сяброўкі па парах*
*У цішы разышліся,*
*Толькі я ў гэты вечар*
*Засталася адна...*

— А ты не адна, — пахваліў Рабы Міву, — ты са мною. Як тут добра! Эх, каб такім было ўсё жыццё!

Міва разрахманілася, пахарашэла ў месячным ззянні.

Яны між жыта прайшліся палявой дарогай. Роснае жыта спала. Не чуваць было ніводнага гуку. Зноў вярнуліся пад грушу.

— Міва, — загаварыў Рабы, — давай злучым свае лёсы.

— Пабачым...

— Ці ты закахалася ў Лупіка?

— Не-е...

А на ўсходзе ўжо абазначылася ранішняе майскае святло.

— Пара дадому, — занепакоілася Міва.

— Пайшлі.

Ён узяў яе за руку, правёў да веснічкаў, на развітанне прамовіў:

— Падумай над маёй прапановай.

— Пастараюся...

А па вёсцы тым часам папаўзлі чуткі, што да Мівы падбіваюць кліны два хлопцы — Рабы і Лупік, — і яна не ведае, каму аддаць перавагу.

Дайшлі тыя чуткі да бацькоў Мівы. Яны ўпотай абмяркавалі набеглую сітуацыю. Бацька рашуча стаяў на баку Лупіка, а маці знаходзілася ў разгубленасці.

Аднойчы, калі Міва, крыху стомленая і задуменная, вярнулася з работы, бацька спытаў:

— За каго ты збіраешся выходзіць замуж — за Лупіка ці за Рабога?

— За Рабога, — рашуча адрэзала Міва.



Фота А. Прудскага

— Дык ён жа не дастане лямпачку ўкруціць у патрон пад столлю.

— Нічога, стане на табурэтку. А што мне з гэтай сталюгі, які толькі і гаворыць, што яго шапку падзяўбалі вераб'і...

— Дзе гэта было?

— У магазіне. Пры людзях.

— Запомні, дочка, — раззлаваўся бацька, — пойдзеш за Рабога — людзі будуць паказваць пальцам і казаць: «Вунь пайшла свіння рабая».

— А за Лупіка пайду — будуць казаць: «Вунь пайшла каза лупатая».

— Няхай выходзіць за каго хоча, — не змаўчала маці.

— Канечне, лепш было б, каб выйшла замуж за інтэлігента. Але дзе ты яго ў глухой вёсцы возьмеш? А гэтыя абое замазаныя...

Неяк у нядзелю, пад абед, прыцёгся ў хату Мівы Лупік. (Міва была ў магазіне.) Бацька расшчодрыўся і паставіў на стол бутэльку першаку, а маці, каб не ўдарыць тварам у гразь, нарэзала і падала на сподачках скрыдлікі каўбасы і сала.

Размаўлялі на розныя тэмы: пра людзей, пра тэхніку, пра заробкі ў калгасе. У маці ад такіх размоў аж вушы вялі.

Добра захмялеўшы, Лупік падступіўся да асабістага:

— У вас здатная дочка. От каб ажаніцца з ёй...

— А хто табе забараняе?! — ажывіўся бацька. — Хоць сёння бяры яе замуж.

Лупік узбадзёрыўся. Ён толькі гэтага і чакаў.

— За такім мужам, я думаю, што не прападзе — яшчэ больш прыбавіў настрою госцю гаспадар хаты.

Калі ж скончылася застолле, бацька Мівы правёў Лупіка за вароты і моцна паціснуў яму руку.

А ў наступную нядзелю набраўся смеласці пераступіць парог Мівінай хаты Рабы. (Мівы таксама не было дома.) Не паспеў Рабы на кухні раскрыць рот, як бацька ўхапіў яго за каршэнь і, як ката, выкінуў з хаты.

Млосна стала на душы ў Рабога. Ён будаваў такія раскошныя асабістыя планы — і на табе. І што цяпер казаць? І куды ісці?

Ён пайшоў дадому і, каб адцягнуць увагу ад таго, што і як з ім толькі што ўчынілі, узяў вудачку і падаўся да Бердаўскага возера.

Платва клявала, але ён яе адчапляў і кідаў назад у ваду: шкадаваў.

«Не, — спахапіўся ў думках Рабы, — пайду да Мівы і пагавару з ёю. Што яна нарадзіць?»

Ён склаў вудачку і пашыбаваў у Гаманы. Абмінуў сваю хату і — у магазін.

Міва была на месцы. Адзін толькі пакупнік, стары дзядзька, круціўся каля прылаўка. Але і ён хутка паклаў у цэлафанавы пакет буханку хлеба і выйшаў за парог.

— Міва, — расчаравана прамовіў Рабы, — мяне твой бацька толькі што выкінуў з хаты...

— Ах, божа! За што?

— Ну, мусіць, каб не рыпаўся жаніцца з табой. А Лупік хваліцца людзям, што яго прынялі гасцінна... Напаілі і накармілі.

— Што цяпер рабіць?

— Не ведаю. Прыйшоў да цябе параіцца.

— А давай куды-небудзь уцячом з гэтага цёмнага балота.

— Куды?

— Можа, у цябе ёсць які знаёмы? Звяжыся з ім, распытай пра ўсё: пра жыллё, пра работу — і махнём.

— У Магілёўскай вобласці, у вёсцы Сташына, жыве мой добры сябра Дзіма. Мы з ім разам служылі ў арміі. Ён там працуе аграномам.

— Ну вось і напішы яму ці патэлефануй. Пасля будзем рашаць.

Абрадаваны такой пазіцыяй Мівы, Рабы ў гэты ж дзень па мабільніку звязаўся з Дзімам.

— Прыязджайце, — сказаў той, — для вас будзе і работа, і кватэра. Я гэта ведаю дакладна.

Аднак яны не спяшаліся, спакойна ўзважылі ўсе плюсы і мінусы, падалі заявы на звальненне, атрымалі зарплату, разліковыя — і паехалі.

Перад ад'ездам Міва сказала маці, куды едуць і дзеля чаго. Маці расчулілася:

— Можа, не едзь, дачанька. Пры сваіх людзях лепш, а там усе чужыя. Ці скажы хоць бацьку пра гэта.

— Ён не пусціць мяне. Мы едзем туды, каб пажаніцца. Доўга не будзем. Праз паўгода якога вернемся дадому. Не перажывай. А тату сама скажы, куды мы паехалі і чаго.

Рабы ж са сваімі бацькамі падзяліўся ўсімі сакрэтамі — і яны не пярэчылі рашучасці сына: Міва ім падабалася.

На новым месцы ў саўгасе абстаноўка маладой пары прыйшлася да душы. Рабы ўладкаваўся вадзіцелем самазвала, Міва пачала працаваць у бухгалтэрыі гаспадаркі. Яны там пажаніліся, ім выдзелілі кватэру ў двухпавярховым катэджы — і ўсё пайшло добра.

Бацька ж Мівы, калі дачуўся ад жонкі, што Рабы звёз іх дачку ў Магілёўскую вобласць, моцна раззлаваўся:

— Пайду да старога Рабога! Я яму павырываю сівыя вусы! Гэта ж трэба, каб нейкі недакурак украў маю дачку!..

— Не хадзі, — пачала ўпрошваць жонка. — Не блытай карты. Можа, у нашай Мівы лёс такі...

Вінцук стукнуў кулаком па стале, гаркнуў:

— Гэта ты ва ўсім вінаватая! Займаешся папусціцельствам!

Аднак да Рабых Вінцук не пайшоў і спакваля супакоіўся.

А ў Сташыне праз паўгода ў абед неяк парупілася Міва:

— Можа, паедзем дадому, Лёня? Хочацца ўсё-такі быць бліжэй да бацькоў. Перажываюць за нас...

— Няёмка перад Пуйдаком, — адказаў муж, — як-ніяк, ён для нас стварыў усе ўмовы, а мы дамо драла. Давай хоць пару месяцаў яшчэ пабудзем.

— Ну... пару можна, — пагадзілася Міва, — а больш не.

— Бацька твой зноў будзе наскокваць на мяне...

— Не будзе. Ён хутка загараецца і хутка астывае. А маме ты ўвогуле падабаешся. Так што не хвалюйся.

Праз восем месяцаў Рабы з Мівaю пераехалі жыць на Лідчыну, у Бердаўку. Іх тут таксама забяспечылі жыллём і работай: яму, як і раней, дасталася водзіць грузавік, а Міва ўладкавалася прадаўцом у сельскі магазін. Маладажоны былі задаволены жыццём.

...Ну а Лупік? Што Лупік? Лупік больш мокрай шапкі на плот не вывешвае...

# Ген зямлі



Усевалад СЦЕБУРАКА

***

*...на смерць Радзімы*

*З чаго пайшло*
*і як распачалося?*
*З чабора паху,*
*грушы над Дняпром,*
*птушынага рознагалосся?*
*Ці з дзіўнага святла,*
*што дорыць восень,*
*ці з той вады,*
*якую п'еш нагбом?*

*І не ўзгадаць цяпер.*
*Гадоў завеі*
*туманяць каляроваю смугой*
*абрысы постацяў,*
*імёны і падзеі*
*сплываюць з невымоўнаю тугой.*
*Ці нават без яе*
*ў нябыт ідуць з палёгкай.*
*Хутчэй імкне бясконцы карагод.*
*І рэха не чуваць, як не галёкай,*
*і на крыніцах неадольны лёд.*

*І толькі груша*
*аблачынкай лёгкай*
*стагоддзямі цвіце*
*апошні год...*

***

*Самотны конь знікае ў тумане́...*
*Туман у ім,*
*ён у тумане нібы...*
*Зноў лістапад чакае на мяне,*
*марозам першым дыхаючы ў шыбы.*

*І гэты конь, і вечар, і дажджы —*
*адвечныя — у гэтым шэрым краі.*
*І ты не першы ад яго бяжыш —*
*паўсюль святлей, чым тут,*
*не дакараю...*

*але ізноў з канём іду ў начное,*
*хоць высахла трава*
*і не стамлёны конь,*
*мне верыцца,*
*што нечы заблукалы човен*
*убачыць бераг,*
*дзе гарыць агонь.*

***

*Мы цяпер пішам міма шуфляды,*
*мы цяпер пішам адразу ў камін.*
*Гэта больш, чым прызнанне,*
*і больш, чым спагада,*
*гэта — і камін аўт,*
*і камін ін.*

*Мы цяпер пішам,*
*каб проста сагрэцца,*
*не прагучаць,*
*а адчуць цеплыню.*
*Гэта цішай за ўдары сэрца*
*і інтымней любога ню.*

*І ўсё ж за відзежай*
*няўлоўных рысак,*
*што дымам злятаюць*
*у вышыню,*
*верыцца нам,*
*што халодны прысак*
*быў кароткім прыстанкам*
*агню.*

## Беларускія зоркі

*Нідзе*
*так*
*не стаіць Воз,*
*як над закінутай хатай.*
*Нідзе*
*так*
*не сумуе серп,*
*як над полем нязжатым.*
*Нідзе*
*так*
*не гарыць маладзік,*
*як у дзедавым садзе.*
*Нідзе*
*лепшага месца няма*
*зорцы, калі яна ўпа́дзе.*
*Паўсюль на гэтай*
*адвечнай зямлі*
*бачу свае сузор'і —*
*ў полымі, кроплях,*
*слядах на раллі,*
*ў марозным ачэзлым голлі...*

*Ціша стаіць ці б'юць званы,*
*праз балаты ці ўзгоркі*
*над гэтым краем стаяць яны —*
*беларускія зоркі.*

***

*Мінаюць вякі,*
*але чутны водар той*
*травіцы з ясляў.*

***

*Першая зорка —*
*ярчэйшая за сонца.*
*Ноч перад Раством.*

***

*Як ніткі лёсу —*
*сцяжыны бацькаўшчыны.*
*Спяшаю дамоў.*

***

*У маёй днк — ген зямлі —*
*жвір драбнюткі з палеткаў радзімы,*
*бы ў Місімы гарачы пясок Івадзімы,*
*як бялюткі вапняк каталонскі ў Далі.*

*І не выдзьмуць яго, не змыць*
*ні вятрам, ні халодным залевам.*
*Іх вялікасцям каралевам*
*у каштоўны дарунак не збыць.*

*І хаця ён за пер'е лягчэй,*
*ды трымае мацней катвігі*
*човен мой, што ідзе*
*то на родныя крыгі,*
*то на зоры чужыны,*
*што свецяць ярчэй.*

*Ген зямлі лучыць з ёю ў адно —*
*лес і лёс, — гэта ўжо незваротна,*
*прыжыццёва і пасмяротна*
*неба гэта і гэтае дно.*

***

*Аціхлы пакой,*
*котка грэе калені.*
*Зноў сыходзіць год.*



Фота pxhere.com

## Зямля як казка

*цябе адчуваю брэйгелем,*
*зімовай зямлі палоскай,*
*жывым запаветным берагам,*
*а ты пасміхаешся босхам...*

*у ватоўцы, падбітай дзюрамі,*
*з адвечнай бядотай нейкай*
*ты кленчыш з рукамі дзюрэра*
*у цюрбане́ ван эйка*

*і лёд пад канькамі трушчыцца,*
*і марна шукаць сховішча,*
*апроч як з зямлёю рушчыца*
*і з космасамі драздовіча.*

***

*Уздыхнеш раптам —*
*вяртаецца дзяцінства.*
*Ялінкі пах.*

***

*І ты смуткуеш,*
*як лятуць твае гады,*
*любімы горад.*

***

*Нібы сняжынкі,*
*растаем у абдымках.*
*Імгненні цяпла.*

***

*Як спакусліва выжыць*
*на гэтай вайне...*
*Перажыць, дачакацца*
*на яве і ў сне.*
*І пасля ўсім сабрацца а шостай*
*і напіцца без тостаў па-просту*
*у кавярні старой на рагу*
*вулкі, той,*
*што ўзгадаць не магу...*

*І мне хочацца верыць,*
*што гэтак і будзе!*
*хай за нашым сталом*
*будуць іншыя людзі,*
*што абмыюць сваю*
*перамогу ў віне*
*І ўзгадаюць усіх,*
*каго чарка міне...*

***

***Вярусі***

*Ясень восень — у жоўтым вітае,*
*клёны ўзнялі чырвоны штандар,*
*і чароды птушыныя*
*вырай глытае,*
*і старонкі пажоўклага*
*лісця гартае*
*засяроджана вецер-кнігар.*

*Жалуды раздае дуб*
*шырокаю жменяй,*
*а на ўзлесках гараць верасы.*
*Гэта восень —*
*і нас з табой робіцца меней*
*нібы пад летаком паласы...*

*Але недзе ў сусвеце*
*ёсць новае лета,*
*і блукаем па сцежках там*
*новыя мы.*
*І цяплей на душы*
*ад такога сакрэта,*
*і патрэбна няшмат,*
*каб нам спраўдзіць*
*ўсё гэта —*
*пераспаць, перасніць*
*снежна-белыя сны.*

***

*Да апошняга*
*кожны ліст трымаецца.*
*Восеньскі вецер.*

***

*Чароды гусей,*
*нібы блізкіх, праводжу.*
*Кастрычніцкі дзень.*

## Снег у Мінску

*Снег ідзе на святога Роха,*
*на Вайсковых падае троху,*
*прыцярушвае Камароўку,*
*Камсамольскае і Асмалоўку.*

*І ў скверы Купалу за плечы*
*абдымае па-чалавечы.*
*Беліць дахі дамкоў Нямігі,*
*робіць айсберг са свіслацкай крыгі.*

*Замірае над Валадаркай...*
*Зноў над плошчай ідзе і паркам,*
*зноў ідзе над жыццём і лёсам,*
*над дымком тваім папяросным.*

*Лістападам ідзе і снежнем*
*над магчымым і непазбежным,*
*Над хаўтурамі і радзінамі,*
*над шматлікімі і адзінымі.*

*Светлым ранкам і шэрай гадзінай*
*Снег ідзе над усёй радзімай.*

***

*Снег і лістота —*
*восень з зімою разам.*
*Бель на золаце.*

***

*Шчапаю смаляк —*
*трэба зіме паказаць*
*бурштын у агні.*

***

*Бог з ім, з месцам пад сонцамі, —*
*мне хоць месца пад соснамі,*
*пад вярбой ці ялінаю*
*на сівым камяні.*

*Дзе пад роснымі кроснамі*
*у світанкі дзівосныя*
*залатыя і вечныя*
*лашчаць мох прамяні...*



Фота pxhere.com

# Прынцып аднаго акна і дваццаці пяці дзвярэй



Ілля РАСОЛАЎ

Аляксандр Парфіравіч Кузялкін, службовец па адмысловых даручэннях заняпалага міністэрства, адкрыў тэчку з апошнімі цыркулярамі і пачаў разглядваць дырэктыўныя ўказанні высокага начальства. Дайшоўшы да трэцяй старонкі, Кузялкін раззявіў рот і нечакана для сябе пазяхнуў. Ён перагарнуў яшчэ старонку, на чым пазяханне не спынілася. Павярнуўся да століка, дзе стаялі тэлефоны спецсувязі, націснуў кнопку на апараце і па звычцы закудахтаў кудысьці ўверх: «Лена... мне... кава».

Фраза была дзяжурнай і азначала, што занядбалы службовец заняпалага міністэрства знаходзіцца ў разумовым тупіку і не ведае, што яму рабіць далей.

Чытво дырэктыўных указанняў працягвалася яшчэ каля паўгадзіны ўжо ў паўголаса і пад каву ды прывяло да таго, што пазяханне толькі пачасцілася. Падступіла дрымота.

«Што такое? — падумаў Кузялкін. — Дзіўны дзень. Ды і трэба б даведацца, ці доўгая чарга просьбітаў?».

Чарга была, як заўсёды, вялікая. Людзі тоўпіліся перад дзвярыма прыёмнай, у калідоры, а сама людская чарада заварочвала аж да сходаў.

— Прасі каго-небудзь тамака, — закамандаваў Кузялкін сакратарцы.

У кабінет зайшоў пажылы мужчына ў шэрым пінжаку ды пажаваным гальштуку і, не вітаючыся, накіраваўся адразу да стала.

— Дабрыдзень, Аляксандр Парфіравіч, — пачаў зайшла. — Вось, прынёс. Да апошняга ўчора збіраў і вырашыў прама да вас.

— Дабрыдзень, — суха вымавіў Кузялкін. — У чым справа?

— Прынёс, — суха паўтарыў просьбіт.

— Можа быць, на пачатку вы прадставіцеся і скажаце, чаго прыйшлі?

— Я ніколі б не адважыўся турбаваць, Аляксандр Парфіравіч... — са шкадаваннем у голасе вымавіў наведвальнік, — але мая жонка, Вольга Пятроўна Шчукіна, сказала, што вы дапаможаце ў маёй просьбе. Яна была ў вас па справе Прахіндзеева пазалетась, і вы ёй дапамаглі. З раніцы папярэдзіла, каб я прыйшоў менавіта да вас.

— Наколькі я здагадаўся, ваша прозвішча Шчукін?

— Так-с.

— Дык што вам трэба?

— Хачу атрымаць пенсію. І калі магчыма — у паскораным парадку.

— Пачакайце. Як жа? — з дзіўнай інтанацыяй у голасе вымавіў Кузякін. — Я нічога толкам не разумею. Наша ведамства не займаецца пенсіямі, мы, ці ведаеце, міністэрства, а не пенсійны фонд. Вам трэба пайсці... — Кузялкін прыўстаў, зазірнуў у нататнік. — На вуліцу Жытная, дзе вам аформяць патрэбнае накіраванне. Вы, васпане, не туды патрапілі. Ваша просьба зусім не да нас.

— А як жа апошні цыркуляр? — з недаверам у голасе вымавіў Шчукін.

— Вы пра што?

— Учора па ўсіх тэлевізійных каналах круцілі, тлумачылі, што да чаго...

Кузялкін ужо даўно не глядзеў ніякіх каналаў. Ён са здзіўленнем уталопіўся на Шчукіна. Шчукін з не меншым здзіўленнем вытарашчыўся на Кузялкіна.

— Прынцып аднаго акна, — ціха прабурчаў просьбіт.

— Аднаго акна? — няўпэўнена перапытаў службовец, і ў ягонай галаве прастукала фраза: — Так-так... Узгадваю.

— Я ўжо пачаў сумнявацца ў вашай добранадзейнасці... — сарамліва вымавіў Шчукін.

— Як жа, як жа. Цыркуляр ёсць цыркуляр. Дакументы высокага начальства — для нас, выканаўцаў, як закон, — закудахтаў службовец заняпалага міністэрства. І расплыўся ва ўсмешцы. — Добра. Зробім. Перадамо дакументы куды належыць, — адрапартаваў Кузялкін.

— Я б прасіў паскорыць справу. Ведаеце, у мяне паважлівая прычына...

— Добра, добра. Буду спрыяць, — нервова паабяцаў Кузякін, спрабуючы хутчэй выправадзіць госця за дзверы. Пасля таго пачаў шукаць дзіўны цыркуляр. Знайшоўшы патрэбную паперу, доўга яе круціў, потым уважліва перачытаў.

Цыркуляр высокага начальства сапраўды ўяўляў сабой шэдэўр дакументазнаўства. «Усё лепшае — для народа, нават чарга...» — з такіх слоў пачынаўся важны цыркуляр. Ён загадваў службоўцу прымаць справы і скаргі наведвальнікаў па-за залежнасцю ад таго, да якога ведамства яны тычыліся. А затым ужо самім спрыяць рашэнню справы. Каб не ствараць натоўп просьбітаў, службовец мог зачыняць на ключ дзверы ўласнага кабінета, але абавязкова пакідаць ключ у дзвярах, каб кожны мог зайсці і ўзяць патрэбны дакумент. Калі ж чарга наведвальнікаў была вялікай, то службовец абавязаны быў карміць просьбітаў сняданкам, абедам і вячэрай, а іншагародніх уладкоўваць на начлег. У асобным раздзеле цыркуляра была апісаная працэдура, якім чынам службоўцу самому запісацца да сябе на прыём. Ён жа таксама павінен быў вырашаць свае ўласныя праблемы...

На наступны дзень да Кузялкіна сабралася яшчэ большая чарга наведвальнікаў. Людзі стаялі да яго — хто аформіць шлюб, хто завяшчанне, хто атрымаць ордэр на кватэру. Не дапамагалі Кузялкіну і навыкі, атрыманыя ў дыпламатычнай акадэміі. Напрыклад, у адным з вучэбных класаў ім паказвалі адмысловы тэлефон, па якім можна было пазваніць міністру замежных спраў любой краіны і адпрацаваць навыкі культурных зносінаў. Вось бярэ трубку студэнт і на ветлівае «Хэло» на тым канцы провада радасна адказвае: «Хрэн табе ў хайло!». «Гэта пяць...» — з гонарам тлумачыў Сашку Кузялкіну выкладчык. Дарэчы, шматлікія акадэмікі дагэтуль з замілаваннем успамінаюць віхрастага хлапчука Сярожку Лаўрушкіна, які працуе цяпер, па чутках, дзесьці ў МЗСе, і яго любімую прыказку: «Ды хто ты, б..., такі, каб мне лекцыі чытаць?!», адрасаваную навуковаму сакратару Акадэміі. На чацвёртым курсе ўсе без выключэння будучыя дыпламаты, і Кузялкін у тым ліку, праходзілі практыку на шахце і на будоўлі. Там, з «апусканнем» у моўнае асяроддзе, яны замацоўвалі навыкі цяжкага навучання.

Але вернемся да нашай праўдзівай і павучальнай гісторыі. З часам Кузялкін ужо пачаў, як кажуць, з'язджаць з глуздоў. Яму трызнілася і па начах снілася яго ранейшае спакойнае жыццё ў заняпалым міністэрстве. Цяпер жа ён не знаходзіў месца нават ва ўласным кабінеце. Аляксандр Парфіравіч прымаў нейкія дакументы, рэгістраваў іх, ставіў пячаткі і абяцаў уладкаваць справы...

Напрыканцы студзеня ў кабінет Кузялкіна нягучна пастукалі. Увайшоў мужчына несамавітага выгляду ў шэрым пацёртым гарнітурчыку і скрыўленым тварам. У руцэ ён трымаў вялікую валізку, з адной кішэні яго штаноў тырчэў развадны ключ, а з другой — драўляная ручка вантуза.

— Таварыш Кузялкін? — упэўнена спытаў ён.

— Так, слухаю. Вы дзяжурны слесар-вадаправоднік? — са здзіўленнем спытаў гаспадар кабінета.

— Не, я прафесар Акімаў. З Баранавіцкага ўніверсітэта. Гума — гэта легендацыя. — Наведвальнік пакрывіўся на адтапыраную кішэню. — Запомніце, мае ініцыялы — А. І. Што значыць Анісім Іванавіч. Я ад Уладзіміра Лапаціна.

— Нічога не разумею. Гэта таксама прафесар?

— Не, ён якраз вадаправоднік, хоць таксама мае навуковую ступень.

— І чаго вы хочаце? — спытаў здзіўлены Аляксандр Парфіравіч.

— Буду з вамі шчыры. Спадзяюся, нашая гутарка застанецца выключна між намі. Мы з Лапаціным людзі занятыя і акрамя таго, што лічымся ў розных дробязных канторах, займаемся выкарчоўваннем усяго гнюснага і нядобранадзейнага. Прызначэнне, ага, — ганарліва вымавіў Акімаў.

— І... — з недаверам зірнуў Кузялкін.

— Я асабіста навучыў гэтай добрай справе сорак восем сваіх вучняў, і ўсе яны шчасліва абаранілі дысертацыі. Трое з іх — дактары навук, працуюць у высокіх кабінетах.

— Цікава, — закрываючы тэчку з дакументамі і збіраючыся спыніць бескарысную гутарку з відавочна нездаровым чалавекам, сказаў Кузякін.

— Не спяшайцеся! — цвёрда адрэагаваў на тое Акімаў. — Я толькі пачаў гэтую важную гутарку. Вось гэты таксама ў свой час спяшаўся, — тыкаючы маленькім, ледзь сагнутым пальцам на партрэт камандуючага, працягваў няпрошаны прафесар. — А цяпер стаў галоўным. Мой любімчык. А калі б я яго граматна пісаць у розныя канцы нашай неабсяжнай не навучыў, сядзеў бы сабе дагэтуль ва ўніверсітэце, з плота ногі звесіўшы. Але то быў іншы час, а цяпер моладзь пайшла несвядомая, няма на іх аніякай управы. Пішуць усякія фельетоны, публікуюць усялякую з'едлівую гадасць. Ніякіх у іх прынцыпаў. Прадалі матухну радзіму за паўкошта. Наце, вось, самі пачытайце...

— Навошта мне гэта? Дзеля якой мэты? Іду да міністра. Іншым разам прыходзьце, — адмовіўся Кузялкін.

— Прыйдзецца! — камандным тонам вымавіў Экімаў. — Мы вунь тут вам накідалі ўсёй нашай камандай і падпісалі. Я, Лапацін, Крэйд ды Двурушнік. Самыя надзейныя людзі, надзейней не бывае. Можаце распытаць, хоць бы Раскрапыхайлава.

Пры згадванні гэтага прозвішча ў Кузялкіна выпрасталася спіна і пабарвавеў твар. Раскрапыхайлаў пасля прызначэння намміністра ўжо паўгода пісаў даносы на ўсіх запар у міністэрства смуроднасці, нават на міністра Вырыймагілкіна. Усе службоўцы аб тым ведалі. Хадзілі чуткі, што ён вось-вось пойдзе на павышэнне ў Раду Бяспекі. Настолькі якасна Раскрапыхайлаў пачаў пісаць!

— У нас самыя добрыя пісьмовыя рэкамендацыі. Краіна павінна ведаць сваіх герояў! — нечакана выгукнуў наведвальнік. У гэты момант яго твар яшчэ больш скрывіўся. Прафесар акуратна, як нованароджанае дзіцё, паклаў важкую тэчку на стол Аляксандра Парфіравіча. — Сам прынёс, хоць мог бы паслаць аспіранта. Прыкмета маёй павагі да вас, таварыш Кузялкін. Буду з вамі шчырым, таварыш. Хоць са мной гэта здараецца вельмі рэдка. Павінен прызнацца, што Лапацін на вас аж тры скаргі напісаў у пракуратуру, і ўсе яны вярнуліся назад. Усюды стаіць рэзалюцыя высокага начальства аб тым, што вы чалавек добранадзейны, як гаворыцца, у дошку наш чалавек.

«Дык вось якая набрыдзь мне спаць не давала», — прамільгнула ў галаве ў Кузялкіна.

— Праверка ёсць праверка, — затакаваў Акімаў. — Выбачайце, але гэта тэхнічная неабходнасць. Цяпер мы ўсе ў адной запрэжцы, у тройцы. Цьфу... — сплюнуў убок прафесар. — Гэта значыць, у камандзе...

Акімаў пацягнуў тэчку за шнурок, разгарнуў.

— Гэта вам, тут ёсць на ўсіх. Прынцып аднаго акна, чулі? — І расплыўся ў лагоднай усмешцы...

...Прыходзіў Акімаў і на наступны дзень, і праз тыдзень, і нават у выходны.



Малюнак Сяргея Ратнікава

# Іна СНАРСКАЯ і Янка ЛАЙКОЎ, альбо Гіпатэтычная сустрэча творцаў у культуралагічным кантэксце сучаснай рэальнасці



Таццяна КАБРЖЫЦКАЯ

Добра вядомая ў Беларусі паэтка Іна Снарская апошнім часам пачала актыўна заяўляць пра сябе як празаік. Спачатку яе апавяданні час ад часу друкаваліся ў часопісе «Дзеяслоў». Аўтабіяграфічнае іх напаўненне, як і можна было прадбачыць, было сагрэтае той шчырасцю ўспамінаў-пачуццяў, што заўсёды характарызуюць стан жаночай душы, а почырк жанчыны-паэткі — з асаблівай выразнасцю. Прасякнутая цэласнай задумай стварэння своеасаблівай «сагі пра ўласны радавод», аўтарка аформіла ўрэшце матэрыял успамінаў-пачуццяў пад адной вокладкай. Так з'явілася кніга прозы Іны Снарскай «Зачараваны скарб», выдадзеная ў выдавецтве «Кнігазбор» (2023).

Амаль аднячасова аматары беларускага мастацкага слова атрымалі чарговую магчымасць азнаёміцца і з літаратуразнаўчымі публікацыямі маладога даследчыка Янкі Лайкова. Яго выданне «Увасобленае хараство», якое аўтар сціпла падае як «агляд сучаснага літпрацэсу праз эсэ і нататкі неабыякавага чытача», змешчана ў інтэрнэтбібліятэцы. Ёмістая, трапная метафара — «увасобленае хараство» — адразу прыцягвае ўвагу. І трэба адзначыць, што мастацкі загаловак апраўдвае абяцаную разнастайнасць. Перад чытачом паўстае шырокая панарама творчых індывідуальнасцяў — ад класікаў да наймаладзейшых аўтараў. Лайкоў пры гэтым не імкнецца «ахапіць неахопнае». Лагічна абмяжоўваючы сябе, ён засяроджваецца найбольш на тых творцах, лёс якіх адлюстроўвае пакручастыя гісторыка-культурныя абставіны фарміравання творчай інтэлігенцыі ў ХХ стагоддзі на абшарах колішняй краіны СССР. Мы як чытачы, дзякуючы Янку Лайкову, пакутліва ўсведамляем: шчаслівы ці трагічна, але заўсёды індывідуальна не проста пракладаецца той запаветны шлях, якім, паводле слоў Ніла Гілевіча, ці кожны з нас паасобку, ці ўсе разам, мы «ідзем да Беларусі».

Самаўсведамленне індывідуума, як вядома, абапіраецца на пазнанне свайго мінулага. Геаграфія радаслоўнага і ўласнага жыцця многіх тых аўтараў, што ў цэнтры ўвагі Янкі Лайкова, вельмі шырокая: бяскрайняя Расія, Казахстан, Кіргізія, краіны Балтыі, Украіна. Пошукі самаідэнтыфікацыі, яе ўнутранай цэласнасці для творцаў — гэта заўсёды ва ўяве Лайкова «балансаванне паміж нябесным і зямным. Гэта спроба сумясціць несумяшчальнае. Прымірыць унутранае з вонкавым. І гэты шлях галаваскрутны»... «Тыя, каму наканавана ўзнесціся высока ў нябёсы, могуць зрынуцца са стромы і балюча выцяцца аб брук паўсядзённасці»...

Такім чынам, ідэя пазнання самога сябе, свайго прызначэння ў жыцці для Янкі Лайкова мае яшчэ і філасофскую напоўненасць. Асвятленне падзейнага плану твораў суправаджаецца ў яго назіраннях са спробамі асэнсавання сферы творчага падсвядомага.

Згаданыя цытаты з тэксту Янкі Лайкова раскрываюць выключную эмацыянальную напружанасць лірыка-драматычнага стылю яго пісьма. Тыя ж адметнасці мастацкага слова аўтара знайшлі ўвасабленне і ў назвах яго публікацый: «Балесная птаха Адраджэння» (пра Таццяну Зінчанка), «Вечная варта ў нябёсах» (пра Леаніда Галубовіча), «Левіяфан унутры, альбо На руінах самотнасці» (пра Алену Брава), «Паэт — Божая птушка» (пра Анатоля Сыса), «Чорны лебедзь айчыннага пісьменства» (пра Віктара Марціновіча). Абраны Лайковым фокус даследавання «адзінства разнастайнасцяў» яскрава ўвыразніваецца праз яго асаблівую пранікнёнасць у перыпетыі пошукаў нацыянальнага самаўсведамлення, якімі пазначана шматгранная творчасць Міколы Адама...

Логіка разгледжанай структуры зробленага Лайковым агляду беларускай літаратуры, яго канцэптуальнага напаўнення і эмацыянальнай падсветкі ўзмацняла маю перакананасць у тым, што ўслед за творам Міколы Адама «...І прыдбаў гэты дом. Закляты скарб, альбо Сага наканавання», аўтар-аглядальнік спыніцца на творчых напрацоўках Іны Снарскай. Патлумачу, чым жа абумоўленыя мае спадзяванні.

Па-першае, усе вядомыя «законы жанру» тыпалагічных літаратуразнаўчых асацыяцый падказваюць, што творчыя пошукі беларуска-ўкраінскага паэта і празаіка Міколы Адама дзівосным чынам сугучныя з шматлікімі момантамі самаўсведамлення — жыццёвага экзістэнцыяльнага і мастацка-творчага — беларуска-ўкраінскай паэткі і празаіка Іны Снарскай.

Мікола Адам, як канстатуе Янка Лайкоў, валодае моцным характарам, бо для выяўлення і абнародавання падрабязнасцяў жыцця сваіх папярэднікаў трэба мець адвагу браць на сябе прынцыповую адказнасць за зняцце ўсталяванага часам і абставінамі табу з асобных фактаў іхняга жыцця. Падобнага роду каментары датычныя і творчай рашучасці Іны Снарскай. Янка Лайкоў мог бы гэтыя моманты, часам выразна драматычныя, далікатна прасачыць. Бо кожны з названых аўтараў, творы якіх мяркуюцца для тыпалагічнага асвятлення, пазнанне саміх сябе сумяшчаюць з экскурсамі ў цяжкасці гісторый фамільных родаў іхніх і мацярок, і бацькоў.

Нагадаю: дачку Полацкай зямлі Іну Снарскую лёс і каханне ўкаранілі ў знакамітую ўкраінскую Палтаўшчыну, дзе яна імкнецца паспяхова рэалізоўваць сябе як творцу ў сферы і беларусістыкі, і ўкраіністыкі. З'яўляючыся афіцыйна грамадзянкай Украіны, Іна Снарская аднячасова стаіць на варце духоўных каштоўнасцяў Беларусі. Мікола Адам прымае тую характарыстыку, што змешчаная ў інтэрнэце: ён — «беларускі паэт, празаік, перакладчык украінскага паходжання». Паказальна пры гэтым, што агульнасць светаадчування Міколы Адама і Іны Снарскай цудоўна выяўляецца праз іх паэзію. Настроі мужчынскай спавядальнасці вершаў Міколы Адама, *«Калі сэрца тугой шчымела, // Бо яму святла не хапала, — // Да мяне заходзіў нясмела // Летуценнік Янка Купала. // Калі я, прыгнечаны нечым, // Забываўся на ўласны голас, // Мне расправіць прыходзіў плечы // Па-бацькоўску Якуб Колас»*, — прарываюцца і ў паэтычных радках, і ў калізіях грамадскай дзейнасці Іны Снарскай. У прыватнасці, год таму, у час перайменавання многіх вуліц і плошчаў Кіева, Іна Снарская арганізавала праз інтэрнэт шырокую культурніцкую акцыю на падтрымку захавання ў сталіцы Украіны плошчы імя Якуба Коласа...



Фота А. Прудская

З агульнай гісторы нацыянальнага самаўсведамлення нараджаецца і заканамерная блізкасць філасафічнасці загалоўкаў згаданых празаічных твораў Міколы Адама і Іны Снарскай: культурная памяць як нацыянальны скарб. Вытокі падабенства — знакамітая паэтычная метафара Максіма Багдановіча: асобны раздзел яго несмяротнага эпахальна адраджэнскага для беларусаў зборніка «Вянок» мае назву «У зачараваным царстве».

Крытэрыі заглыбленай аналітычнасці ідэі «Заклятага скарбу» Міколы Адама, разгорнутай Янкам Лайковым, могуць стаць датычнымі і «Зачараванага скарбу» Іны Снарскай. Бо, як трапна разважае Янка Лайкоў, «кожны з нас — гэта звяно ў ланцужку шматлікіх пакаленняў роду, вынік кахання, нянавісці, трывог, спадзяванняў нашых продкаў. І без разумення, усведамлення гэтага мы асуджаны шторазвяртацца да выклятых пытанняў». Той, хто не шукае на іх адказу, «прыпадабняцца да бязмоўных, набрыняпых жывёльным інстынктамі манкуртаў». Зрэшты, перакананна, што адчуванне сучаснага моманту гісторыі, грамадзянская канцэпцыя Міколы Адама, закладзеная ў самаатэстацыю яго ўласнай творчасці, таксама актуальныя і для Іны Снарскай. Крыху перафразуючы арыгінал, паўтаруся ўслед за маладымі аўтарамі: «Геаграфія пачуццяў, геаграфія любві, што злучала Беларусь і Украіну, нягледзячы ні на вайну, ні на рэпрэсіі, ні на межы і ростані», застанецца непарушнай...

Як зразумелі чытачы, творчая сустрэча Янкі Лайкова і Іны Снарскай паўстае пакуль што не ў рэальнасці, а ў маёй уяве. Да гэтага, у пэўнай ступені правакацыйнага, прыёму я звярнулася цалкам свядома, каб акцэнтаваць увагу на творчым дэбюце Іны Снарскай як празаіка, актывізаваць тую немалую чытацкую аўдыторыю, што давярае мастакоўскаму густу Янкі Лайкова. Разгледжаны тут зборнік Янкі Лайкова «Увасобленае хараство» складаецца з тэкстаў, напісаных у мінулым дзесяцігоддзі, калі проза Іны Снарскай яшчэ толькі нараджалася і, адпаведна, не была абнародавана ў беларускім друку. Хочацца верыць, што наступны выпуск свайго «Увасобленага хараства» тутэйшы «беларускі вогнепаклоннік» Янка Лайкоў адкрые менавіта матэрыялам, прысвечаным «беларускай вогнепаклонніцы» з Палтавы Іне Снарскай.

Трэба прызнаць: кніга «Зачараваны скарб», нягледзячы на ў цэлым высокі ўзровень мастацкасці, яшчэ не знайшла свайго рэцэнзента. Прыкрасць сітуацыі абумоўлена найперш рэарганізацыйнымі працэсамі ў культурным жыцці краіны, ад якіх залежыць сённяшні стан і літаратурнага працэсу, і прафесійнай літаратурнай крытыкі. Як вынік — шмат цікавага, вартага ўвагі застаецца без прапіскі ў літаратурна-мастацкім друку, нямала навінак мастацкай літаратуры не атрымліваюць водгуку ў прэсе. Спрацоўвае тут, як на маю думку, ускосна і слабая рэклама. Ва ўсякім разе, скіраваць чытача на нешта новае ў творчай лабараторыі аўтара магла б выдавецкая анатацыя. У выпадку з «Зачараваным скарбам» пазначана толькі, што аўтар выдання — з Полацка. З аднаго боку, тэма Полацка ў Беларусі сёння дастаткова актуальная і, здавалася б, павінна была выклікаць асаблівую цікавасць. Аднак нацыянальна свядомага чытача прыцягвае ў першую чаргу творчая рэканструкцыя вобраза Полацка як старажытнага цэнтра беларускай дзяржавы. Таму й карыстаецца чытацкай любоўю гістарычная проза Вольгі Іпатавай, Леаніда Дайнекі, Уладзіміра Арлова, а што ўжо казаць пра ўсплёск шырокай чытацкай зацікаўленасці гісторыка-дэтэктыўнымі прыгодамі Пранціша Вырвіча, героя шматтомнай эпапеі Людмілы Рублеўскай.

Па ўсім відаць, што прыступаючы да працы над матэрыялам — гісторыя роду, успаміны дзяцінства, ускосная характарыстыка пэўнага перыяду эпохі з яе нацыянальнымі адметнасцямі, — аўтар выношвала свой тэкст як раман. Аднак, як мне падаецца, у Беларусі літаратурная крытыка, выхаваная на шматлікіх узорных творах нацыянальнай прозы, не зусім будзе згодная з такім вызначэннем. І побытавы рэалізм, і нават дакладнасць гісторыка-рэалістычнага матэрыялу ў кнізе яскрава падсвечаны ўсімі магчымымі фарбамі лірыка-эмацыянальнай палітры. Праз гэтую асаблівасць проза Іны Снарскай, мяркую, выявіцца наблізжанай да запатрабаванняў украінскага чытача. Выказваю гэта меркаванне, бо ведаю, што аўтарка працуе над выданнем украінамоўнага варыянту разгледжанага тэксту.

У нацыянальнай скарбніцы ўкраінскага прыгожага пісьменства нямала наватарскіх празаічных твораў, у стылі якіх шырыня эпасу спалучаецца з фрагментарнасцю гісторый асабістасная вопыту, што ў жанравым вымярэнні ўспрымаецца часам як «раман у навэлах» (Юрый Яноўскі, Алесь Ганчар, інш.). То ж пачакаем новай задуме «Зачараванага скарбу» — поспехаў!

***P. S.*** *Інна Снарська — дитя весни. Разом з прекрасною українською поеткою Світланою Короненко, авторкою знаменитого «Замовляння на білоруську мову», вірша «Вогнепоклонниця», адресованого безпосередньо Інні Снарській, попросимо в Бога:*

*щоб доля не приспішувала фольклорні коні — життєві роки Інни Снарської,*

*щоб незбагненне творче натхнення, свята любов до рідного краю променіли в її душі потужною енергією вологого важкого бурштину,*

*щоб темний задимлений тать оминав її життєві стежки-доріжки, а над магістральними шляхами нашого спільного білорусько-українського, українсько-білоруського світосприймання горів сторожко, незгасно й переможно святий вогонь в небесах.*

***Мястэчка Ракаў, Мінская вобласць. Пачатак вясны 2024 года.***

# Патрык ЗЮСКІНД: «Калі ў мяне няма ідэі, я нічога не пішу»

Таццяна ШЫПІЛАВА

Патрык Зюскінд (Patrick Süskind) — самы вядомы пустэльнік і жывы класік нямецкай літаратуры, якому 26 сакавіка споўнілася 75 гадоў, — даў толькі чатыры захаваныя інтэрв'ю, не з'яўляецца на публіцы і адмовіўся ад узнагарод.

Талент, слава, неверагодны камерцыйны поспех і пустэльніцтва спараджаюць мноства легендаў і чутак вакол імя Патрыка Зюскінда. Ужо шмат гадоў нямецкі пісьменнік не размаўляе з журналістамі. Людзі, якія ведаюць яго асабіста, запэўніваюць, што ён быў такім заўсёды...

Патрык Зюскінд нарадзіўся ў 1949 годзе ў баварскім мястэчку Амбах у сям'і вядомага крытыка, перакладчыка і пісьменніка Вільгельма Эмануэля Зюскінда. У 20-я гады Зюскінд-старэйшы сябраваў з Эрыкам і Клаўсам Манамі, пісаў мадэрнісцкія раманы і сцэнары для кабарэ. Акрамя сур'ёзных разваг пра літаратуру, Зюскінд-старэйшы часта публікаваў у газеце «Süddeutsche Zeitung» кароткія гумарыстычныя скетчы, і «маленькі Патрык» быў іх пастаянным героем.

Такім чынам, можна сказаць, што Патрыку Зюскінду пагражаў лёс Дзянiскі з твораў Віктара



Патрык Зюскінд

Драгунскага, які на веку вечныя застаўся Дзянiскам з апавяданняў бацькі, — але гэтага лёсу ён шчасліва пазбегнуў. Пазбег ён (ці шчасліва?) і лёсу прафесійнага музыкі. Патрык граў на фартэпіяна і ставіўся да гэтага занятку сур'ёзна, але падвяла анатомія: занадта кароткае сухажылле на мезенцы. Большасць людзей і не задумваюцца, якое там у іх сухажылле на пятым пальцы, а для піяніста гэта трагедыя.

У далейшым музыка стане важнай часткай яго твораў, і заўсёды — з адценнем горычы. Скончыўшы мясцовую школу, Патрык Зюскінд вывучаў гісторыю ў Мюнхенскім універсітэце. Затым працягнуў навучанне ў французскім універсітэце, але дыплом так і не атрымаў: у сярэдзіне 70-х ён без усялякіх тлумачэнняў кінуў універсітэт. Працаваў у кампаніі «Siemens», быў тапёрам у танцавальнай зале, трэнерам па настольным тэнісе — працаваў шмат, нідзе доўга не затрымліваючыся.

У вольны час пісаў кароткія апавяданні і кінасцэнары. Першы поспех Патрыку Зюскінду прынесла п'еса «Кантрабас», выдадзеная і ўпершыню пастаўленая на тэатральнай сцэне ў 1981 годзе — аднаактовы маналог 35-гадовага музыканта, кантрабасіста ў дзяржаўным аркестры.

Захопленая крытыка пісала, што Патрык Зюскінд «амаль кантрабасавай асалоднай мовай і слабасцю да няўдачнікаў і адзіночак нагадвае пра Чэхава».

Як нярэдка бывае, п'еса пра няўдачніка зрабіла аўтара шчаслiўчыкам: ганарар ад выданняў і пастановак «Кантрабаса», якія літаральна выхоплівалі з рук вядучыя акцёры (і музыкі, якія нярэдка з'яўляліся на сцэне «ў ролі» басэтлі — як, напрыклад, рок-музыка Анатоль Крупноў) дазволіў Патрыку Зюскінду цалкам прысвяціць сябе пісьменніцкай працы: ужо тады ён хацеў напісаць раман пра забойцу, апантанага пахамі.

«Фінал рамана быў у мяне ў галаве з самага пачатку. Але аказалася, што сам па сабе ён не працуе. Я зразумеў, што павінен апісаць увесь шлях гэтага героя, пачынаючы з моманту яго нараджэння», — казаў ён у адным з рэдкіх інтэрв'ю пра гісторыю стварэння кнігі, якая прынесла яму сусветную славу.

Патрык Зюскінд праехаўся на матаролеры па галоўных парфумерных фабрыках Францыі, вывучаючы пахі і асноўныя тэхналогіі вытворчасці. «Падчас гэтай вандроўкі нюх быў ледзь ці не адзіным даступным мне адчуваннем. З-за ахоўных акуляраў я амаль нічога не бачыў, з-за шлема — амаль нічога не чуў».

Дзеянне рамана пісьменнік змясціў у Францыю XVIII стагоддзя — «цёмны бок Асветы».

«Парфумер. Гісторыя аднаго забойцы» выйшаў у 1985 годзе і аімгненна стаў бэстсэлерам. Усе літаратурныя прызы, якімі хацелі ўзнагародзіць «Парфумера», Патрык Зюскінд атрымліваць адмовіўся. Сусветная слава «аднаго забойцы» Жана-Батыста Грануя канчатковаператварыла яго аўтара Патрыка Зюскінда ў пустэльніка: ён ухіліўся ад зносін з навакольным светам і перастаў адказваць на просьбы выдаўцоў даслаць сваю фатаграфію. Сябры і сваякі даведаліся пра раман толькі пасля таго, як яго фрагменты былі надрукаваныя ў газеце «Frankfurter Allgemeine Zeitung».

На працягу многіх гадоў Патрык Зюскінд адмаўляўся ад экранізацыі кнігі — на яго думку, з гэтай задачай мог справіцца толькі Стэнлі Кубрык. Але вось праблема: сам рэжысёр «Касмічнай адысеі» і «Бары Ліндана» лічыў раман «не падлеглым экранізацыі».

Аднак фільм па рамане ўсё ж быў зняты — у 2006 годзе гледачы ўбачылі версію нямецкага рэжысёра Тома Тыквера. Патрык Зюскінд у працы над карцінай ніякага ўдзелу не прымаў.

З часоў «Парфумера» пісьменнік не выдаў ніводнага вялікага рамана. Ён публікаваў кароткія апавяданні, «Аповесць пра спадара Зоммера», эсэ «Аб каханні і смерці». У канцы 90-х Патрык Зюскінд таксама напісаў сцэнар да драмы «Расіні». У 2003 годзе стаў адным з заснавальнікаў Нямецкай кінаакадэміі.

У сярэдзіне 2000-х з'явілася версія, што пісьменнік Патрык Зюскінд — містыфікацыя. Нямецкія журналісты правялі расследаванне. Аказалася — не. Знаёмыя празаіка раскрылі некаторыя дэталі яго прыватнага жыцця: у прыватнасці, што ён цудоўна вядзе гаспадарку, што ў яго ёсць сын...

Час ідзе, Патрык Зюскінд па-ранейшаму маўчыць, а легенды вакол ягонай асобы толькі множацца. У інтэрв'ю «The New York Times» ён апісаў сваё творчае крэда адной-адзінай фразай: «Калі ў мяне няма ідэі, я нічога не пішу».

# «А ў галаве ўсё звініць і звініць...»

Арсень ЗАМАСЦЬЯНАЎ

Мінула 205 гадоў, калі ў Арле Расійскай імперыі нарадзіўся Іван Тургенеў — класік «без страху і папроку», які, думаецца, у апошнія дзесяцігоддзі застаецца па-за модай, застаецца незаслужана непрачытаным.

Багатыр — ростам пад два метры, ён гаварыў высокім тэнарам, нібыта бянтэжыўся, не хацеў заглушаць сабой іншых. Амаль усё жыццё правёў на чужыне, побач з жанчынай, якую абагаўляў — з Палінай Віярдо. І тым быў і шчаслівы, і нешчаслівы.

Тургенеў няўлоўны. Ён выслізгвае ад збіральніка літаратурных гербарыяў, выпадае з любой класіфікацыі.

Бліскучы стыліст, лірык, паляўнічы, заходнік, рэспубліканец, арыстакрат — усё гэта пра яго. На працягу 40 гадоў Іван Тургенеў заставаўся ў цэнтры рускага грамадскага жыцця, пры гэтым знаходзячыся, у асноўным, у Францыі і ў Германіі.

Яму пакланяліся, з ім змагаліся, з яго герояў «рабілі жыццё». Заканадавец мод, «ён прыдумляў крой, ён прыдумляў душу, і па гэтых узорах многія расейцы апраналіся».

Праўдзівы рэаліст, ён вёў дзённікі за сваіх герояў, каб яны дзейнічалі «натуральна». І гэта атрымлівалася бездакорна.

Але Тургенеў — і містык, яго позніх аповесці — «Клара Міліч», «Песня пераможнага кахання» — таксама знаходзяць прыхільнікаў.

Тонкі мастак, паэт, ён меркаваў, што галоўная справа яго жыцця — спрыянне вызваленню рускіх сялянаў ад прыгоннай залежнасці. І гэта яму — эстэту, знаўцу сусветнай літаратуры — уяўлялася значна вышэйшым за любую паэзію!

## Барскае самадурства

Ён нарадзіўся ў нешчаслівай сям'і. Бацька ажаніўся дзеля таго, каб паправіць свае фінансавыя справы. Верагодна, гэтая акалічнасць адбілася на характары маці, якая хоць і любіла Івана, але была жорсткай да яго. А ўжо яе панскага самадурства ў адносінах да чэлядзі сын сароме́ўся з юных гадоў. З гэтага сынавага бунту і пачалася яго барацьба з «прыгонным» прыніжэннем чалавечай годнасці. Усё гэта і ператварыла Івана Тургенева ў пісьменніка.

## Студэнт

Ён быў адным з найбольш удумлівых студэнтаў на філасофскім факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта. Потым жыў «на студэнцкім хлебе» ў Нямеччыне — і зноў з галавой занурыўся ў вучобу. Аб гегельянстве ведаў не па чутках, антычных класікаў чытаў у арыгінале. Пасля такіх штудый у пецярбургскіх літаратурных колах яго лічылі эталонам адукаванасці.

Ён расказваў пра нямецкія ідэі і Бялінскаму, і Някрасаву. Адукоўваў старэйшых таварышаў па літаратуры, якія ўспрымалі яго крыху легкадумным і любілі павучаць.

## Ганібалава клятва

Першая кніга апавяданняў шмат у чым так і засталася галоўнай для Івана Тургенева. Там няма ні слова пра палітыку і амаль адсутнічае выдумка. Звычайныя нарысы паляўнічых і вясковых уражанняў аўтара. Але «Запіскі паляўнічага» руйнавалі тую з'яву, аб якой Тургенеў пісаў: «...вораг гэты быў — прыгоннае права. Пад гэтым імем я сабраў і засяродзіў усё, супраць чаго я вырашыў змагацца да канца, з чым я пакляўся ніколі не прымірацца... Гэта была мая ганібалава клятва».

Пісьменнік змагаўся з прыгоннымі парадкамі не менш люта, чым карфагенскі палкаводзец Ганібал — з рымлянамі. І сам імператар Аляксандр II, хоць і не быў прыхільнікам прыгожага пісьменства, пазней прызнаваўся, што менавіта «Запіскі паляўнічага» пераканалі яго ў неабходнасці вызвалення сялян.

## Артыстычны гуляка

А ва ўспамінах пісьменніцы Аўдоцці Панаевай малады Тургенеў паўстае фанфаронам, эгаістычным, артыстычным гулякам, які любіць пахваліцца, прыхлусіць і бестурботна пырхае па літаратурным Пецярбургу. Мемуарыстка не заўважыла ні тургенеўскага вялікадушша, ні таленту, ні такту. У яе атрымалася добрая карыкатура на Тургенева. Але святочную атмасферу яго пісьменніцкай маладосці яна адлюстравала яскрава.

Кожнае апавяданне з «Запісак паляўнічага» рабіла сенсацыю, а то і скандал. У стракатай плеядзе маладых празаікаў натуральнай школы Тургенеў засланяе ўсіх. Яго проза стала ўзорам стылю — вытанчанага і нязмушанага.

Але ён умеў і пакрыўдзіць, кальнуць эпіграмай:

*Вот еще светило мира!*
*Кетчер, друг шипучих вин;*
*Перепёр он нам Шекспира*
*На язык родных осин.*

Ці — з калектыўнай творчасці, але завадатарам жа быў менавіта Тургенеў:

*Витязь горестной фигуры,*
*Достоевский, милый пыщ,*
*На носу литературы*
*Рдеешь ты, как новый прыщ...*

Гэтага ўдару Дастаеўскі не забыў. І аказаў некалькімі нядобрымі шаржамі на Тургенева ў прозе — напрыклад, у «Бесах», дзе дзейнічае вельмі клапатлівы і непрыемны пісьменнік Кармазінаў.

Яны так і не прымірыліся.

## Разам з Талстым

Ярчэй і разнастайней склаліся ў Тургенева ўзаемаадносіны з Львом Талстым. Яны спрачаліся, гулялі ў шахматы. Тургенеў часцей выйграваў, потым ледзь не біліся на дуэлі, але, у выніку, прымірыліся. Неяк у размове з маладымі пісьменнікамі Тургенеў сказаў пра Талстога: «Такога мастака, такога першакласнага таленту ў нас ніколі яшчэ не было і няма. Яму ў цяперашняй еўрапейскай літаратуры няма роўнага». Хто яшчэ з пісьменнікаў быў здольны на такое прызнанне?

## Герасім і Муму

Неяк ён напісаў маленькую аповесць, якую многія памятаюць па назве са школьнай праграмы — «Муму». Па-мойму, гэта самы недаацэнены твор расійскай літаратуры. Там — і паэзія, і «сярмяжная» праўда жыцця, і жывыя людзі, і алегорыя. Чамусьці гэтую рэч лічаць дзіцячай, занадта хрэстаматыйнай і простенькай. Крытыкі ўбачылі ў «Муму» «добра аздобленую» «гісторыю пра каханне беднага глуханямога дворніка да сабачкі, загубленай злой і капрызнай старой». А там больш асабістага і балючага, чым можа здацца. Асабліва калі ўспомніць, што пані тая — шмат у чым — Варвара Пятроўна Тургенева, маці, якую ён не толькі ненавідзеў, але і любіў. А Герасіма ён выпакутаваў, адкінуўшы лірыку і прымхі.

***

«Я сяджу, забіўшыся ў кут; а ў галаве ўсё звініць і звініць: "Как хороши, как свежи были розы"... Мне холадна... Я зябну... І ўсе яны памерлі... памерлі...» — ніхто не пісаў пра старасць так сумна і падрабязна, як ён. «Вершы ў прозе», напісаныя ў апошнія гады жыцця, сталі ягоным запаветам — і літаратурным, і светапоглядным. Тургенеў па-ранейшаму захапляўся тымі, хто быў гатовы перакройваць свет у імя прагрэсу, прыслухоўваўся да простанароднай гаворкі і апяваў «буркатню патрыярхальнага самавара».

Ён абраў неверагодна хісткі жанр, не пабаяўся выглядаць наіўным — і застаўся пераможцам.

***Пераклад з рускай.***

## Шаўчэнкаўская прэмія-2024

Сталі вядомыя лаўрэаты Нацыянальнай прэміі Украіны імя Тараса Шаўчэнкі за 2024 год. Пра гэта са спасылкай на ўказ прэзідэнта Украіны паведаміла РБК-Украіна.



Лаўрэатамі прэміі ў намінацыі «Літаратура» сталі Дмытро Лазуткін за кнігу вершаў «Закладка» і Ярына Чарнагуз за кнігу паэзіі «[dasein: абарона прысутнасці]».

За публіцыстыку адзначаны Мсціслаў Чарноў, Яўген Малалетка і Васіліса Сцепаненка — за журналісцкія матэрыялы аб блакадзе Марыупаля. (Дарэчы, гэтая каманда за свой дакументальны фільм нядаўна атрымала прэмію «Оскар».)

У намінацыі «Музычнае мастацтва» — Джамала за альбом «Qirim» і кампазітарка Кармэла Цэпкаленка.

«Тэатральнае мастацтва» — Іван Урыўскі, Тацяна Аўсійчук і Сусанна Карпенка за спектакль «Канатопская ведзьма».

«Выяўленчае мастацтва» — Андрэй Ярмоленка за серыю работ «Украінскі супрацій».

Шаўчэнкаўская прэмія з'яўляецца вышэйшай дзяржаўнай творчай адзнакай за значны ўклад у развіццё культуры і мастацтва Украіны. Прэмія ўручаецца з 1961 года да дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі, які адзначаецца 9 сакавіка.

## Прэмія імя Акутагавы

Лаўрэатка прэстыжнай японскай літаратурнай прэміі імя Рунoскэ Акутагавы за 2023 год 33-гадовая Рыэ Кудан паведаміла, што каля 5% тэксту ў яе рамане-пераможцы «Такійская вежа спагады» («Tokyo-to Dojo-to») было згенеравана чатам GPT і ўключана ў твор без зменаў.

Аўтарка адзначыла, што «ў далейшым таксама хацела б працягваць выкарыстоўваць тэхналогіі, каб, ужываючы іх, яшчэ больш развіць сваю творчасць».

Паводле дадзеных СМІ, дзеянне рамана «Такійская вежа спагады» адбываецца ў будучыні, дзе ў такійскім парку ў Сіндзюку будуецца вежа-хмарачос, прызначаная для камфартабельнага размяшчэння злачынцаў на падставе тэорыі аб тым, што «злачынцы — гэта людзі, якія заслугоўваюць спагады».

Раман апавядае пра жанчыну-архітэктарку, якая незадаволеная такой талерантнасцю грамадства і павелічэннем прысутнасці тэхналогій генератыўнага штучнага інтэлекту.

Пісьменніца нарадзілася 27 верасня 1990 года ў прэфектуры Сайтама. Гэта ўжо другая яе намінацыя на прэмію Акутагавы. Першая была ў 2021 годзе за раман «Школьніца».

Прэмія імя Рунoскэ Акутагавы — самая прэстыжная з літаратурных прэмій Японіі, якія прысуджаюцца дэбютантам. Была заснавана ў 1935 годзе выдавецтвам «Бунгэй сюндзю» ў памяць пра пісьменніка-класіка Рунoскэ Акутагаву. Прысуджаецца двойчы за год: у студзені і ліпені. Выключэннем стаў адрэзак часу з 1945 па 1948 год.

Пераможца атрымлівае памятны гадзіннік і адзін мільён ен ад «Асацыяцыі па садзейнічанні японскай літаратуры». Тэксты, абраныя ў якасці лепшых, затым публікуюцца выдавецтвам «Бунгэй сюндзю».

У большасці выпадкаў прэміяй узнагароджваюцца творы малой і сярэдняй формаў. Асноўная ідэя прэміі — заахвочванне пачаткоўцаў, чые тэксты былі апублікаваныя ў літаратурных часопісах або газетах у справаздачнае паўгоддзе. У сувязі з гэтым узнагароджаныя творы неабавязкова з'яўляюцца выбітнымі працамі самі па сабе: насуперак распаўсюджанай думцы, прэмія імя Акутагавы не з'яўляецца галоўнай літаратурнай прэміяй Японіі. Тым не менш, пасля многія лаўрэаты прэміі імя Акутагавы, такія, як Кобо Абэ, Кэндзабура Оэ, Кэндзі Накагамі і многія іншыя, сталі сталымі майстрамі, набылі статус класікаў сучаснай японскай і сусветнай літаратуры.




## Прэмія імя Лэсі Украінкі

Лаўрэатам Міжнароднай літаратурна-мастацкай прэміі імя Лэсі Украінкі за 2024 год стаў пісьменнік з Чарнаўцоў Міраслаў Лазарук. Прэмія прысуджана яму за кнігу паэзіі.

Прэмія заснавана ў 2017 годзе як Ганаровы міжнародны медаль Лэсі Украінкі, які ўручаўся ў межах Міжнароднага літаратурна-мастацкага конкурсу імя дэ Рышэльё (Украіна, Адэса — Германія, Франкфурт). А з 1 студзеня 2021 года заснавальнікамі прэміі сталі Міжнародная літаратурна-мастацкая акадэмія Украіны і Міжнародная акадэмія літаратуры, мастацтва і камунікацыі Германіі.


Міраслаў Лазарук

## «Другасны» кніжны рынак

Продажы кніг на расійскім другасным рынку выраслі амаль на 50%. Эксперты звязваюць гэта з сыходам шэрагу замежных аўтараў. РБК апублікавала статыстыку, прадстаўленую сэрвісам «Авіта»: продажы кніг на другасным рынку ў 2023 годзе выраслі на 47%. З усіх рэалізаваных аб'яў 34% прыйшлося на фактычна новыя кнігі, 66% — на ўжо чытаныя.

Лідэрамі па продажах кніг на другасным рынку ў 2023 годзе сталі кнігі пра Гары Потэра Джоан Роўлінг і хорар-раманы Стывена Кінга. Попыт на іх у параўнанні з 2022 годам павялічыўся на 15 і 18 працэнтаў адпаведна. Абодва аўтары яшчэ вясной 2022 года аб'явілі аб тым, што іх новыя раманы ў Расіі выдавацца больш не будуць.

На першасным расійскім рынку продажы Стывена Кінга ў 2023 годзе ўпалі амаль на чвэрць.

Папулярнымі напрамкамі букіністыкі аказаліся сусветная класіка і нон-фікшн. Прыкметны рост дэманструюць японскія коміксы і фэнтэзі, асабліва тыя кнігі, па якіх выходзяць экранізацыі. Напрыклад, продажы «Ведзьмака» Анджэя Сапкоўскага выраслі на 40% у 2023 годзе.

Рост сегмента букіністыкі напрамую звязваецца з памяншэннем пакупніцкай здольнасці насельніцтва і агульны рост коштаў на кнігі.

## «Непрычасаны» Станіслаў Ежы Лец

**Павел ТОМЧЫК**

6 сакавіка 115 гадоў таму ў Львове нарадзіўся сатырык, паэт і афарыст Станіслаў Ежы Лец, аўтар, між іншым, «Непрычэсаных думак».


Станіслаў Ежы Лец

Станіслаў Ежы Лец, а дакладней — Станіслаў Ежы дэ Туш-Лец, нарадзіўся ў шляхетнай яўрэйскай сям'і, быў сынам барона Бенона дэ Туш-Лец і Адэлі, народжанай Сафрын. У 1927 годзе пачаў вучыцца ва ўніверсітэце Яна Казіміра, а пасля года паланістыкі перайшоў на юрыдычны факультэт. У 1928-м дэбютаваў вершам «Вясна».

«Ён сваім жыццём пацвердзіў праўдзівасць сваіх самых парадаксальных сентэнцый. Спадчыннік баронскага тытула, нягледзячы на сваю саслоўнасць, меў відавочна левыя погляды. Ён скараціў трохскладовае прозвішча і адшліфаваў яго да простага: Лец, што на ідыш азначае вясёлы, а таксама праніклівы назіральнік, які інтэрпрэтуе і тлумачыць тое, што бачыць па-свойму», — пісаў Януш Р. Кавальчык. Лец азначае на ідыш жартаўнік, сатырык. Палітычнае значэнне яму надае старажытнагерманскае слова «Letze» — памежнае ўмацаванне, ахоўны вал.

«Звязаны з левымі сацыялістамі, ён быў адным з сузаснавальнікаў часопіса «Трыбы», які амаль адразу пасля выхаду першага нумара быў зачынены ўладамі (1931, № 1). У 1933—1936 гадах супрацоўнічаў з камуністычным «Dziennik Popularny», дзе пад псеўданімам «Стах» друкаваў рэгулярную штодзённую калонку пад назвай «Перад судом» і нядзельную рубрыку пад назвай "Перад канчатковым судом». Разам з Леанідам Пастэрнакам ён стварыў літаратурнае кабарэ Teatr Pęków, якое зачынілася пасля некалькіх выступаў. Пасля закрыцця ўладамі «Dziennik Popularny», баючыся арышту, ён на кароткі час выехаў у Румынію, потым застаўся з маці на Падоллі, дзе працаваў стажорам адваката ў Чарткаве, пасля чаго вярнуўся ў Варшаву і працягнуў літаратурную дзейнасць. Супрацоўнічаў таксама з сатырычнымі часопісамі.

Пасля пачатку Другой сусветнай вайны апынуўся ў акупаваным СССР Львове, дзе ўдзельнічаў у літаратурным жыцці. Падпісаў дэкларацыю польскіх пісьменнікаў, у якой вітаў далучэнне Заходняй Украіны да Савецкай Украіны. У 1940 годзе ўступіў у Саюз савецкіх пісьменнікаў Украіны.

Шэраг яго твораў, у адпаведнасці з чаканнямі савецкіх уладаў, паходзяць з гэтага перыяду, у тым ліку першы польскі верш, які ўсхваляе Сталіна.

Сярод львоўскіх пісьменнікаў-камуністаў Лец быў адным з найбольш актыўных апалагетаў савецкай сістэмы. У савецкіх часопісах публікаваў рэпартажы, пераклады савецкай палітычнай паэзіі, вершы і сатыру. У адной сатыры ён пагражае высылкай за хабар, у другой — нападае на польскую палітычную эміграцыю...

Пасля ўступлення немцаў у Львоў 30 чэрвеня 1941 года Леца змясцілі ў прымусова-працоўны лагер у Тэрнопалі.

Лец таксама быў аўтарам прозы — кароткай і сціслай. «Калі я капаў тую частку рова, якая павінна была быць маёй магілай, і ціха і машынальна насвістваў нейкую арыетку з Неперца, афіцэр СС, які ахоўваў мяне, сказаў: "Ты цынік!". Ніякай сімпатыі ён да мяне, відавочна, не адчуваў», — узгадваў пісьменнік.

У скрадзеным нямецкім мундзіры Лец дабіраўся да Варшавы, дзе ўключыўся ў падпольную дзейнасць у Народнай гвардыі і да студзеня 1944 года быў членам рэдакцыі « Żołnierz w Boju». У якасці афіцэра Арміі Народнай удзельнічаў у партызанскіх баях, у тым ліку ў бітве пад Рабловам. Літаратурным дакументам таго часу з'яўляецца паэтычны «Польскі сшытак». Пазней быў сурэдактарам прапагандысцкіх часопісаў Польскай рабочай партыі «Żołnierz w Boju». Пасля ўваходу Чырвонай Арміі стаў маёрам Войска Народнага Польскага.

Пасля вайны аднавіў у Лодзі сатырычны штотыднёвік «Szpilki». У 1946—1950-х гадах жыў у Вене ў якасці прэсаташэ Польскай місіі. «Я два гады быў у лагеры смерці, уцёк з магілы ў Варшаву, потым канспірацыя, потым партызанка, потым войска, цяпер дыпламатычная служба. Словам, жыццё сумленнага чалавека. Лёгка пісаць, цяжэй выжыць, але цяжэй за ўсё пісаць зноў. Таму пра лагер пакуль не пісаў».

З Вены на радзіму не вярнуўся, эміграваў у Ізраіль. За гэта яго выключылі са спісу сяброў Саюза польскіх пісьменнікаў, а яго творы падвергнулі цэнзуры і выключылі з бібліятэк.

Але ў 1952 годзе ён вярнуўся — адзін, без жонкі і дзяцей — у Польшчу, што зрабіла фурор. «Гэта было вельмі смешна, бо яму не было куды ісці, і ён адразу з вакзала зайшоў у пісьменніцкую кавярню, з чамаданам, а там сядзеў Мінкевіч. Убачыўшы Леца, усе пачалі разбягацца, думалі, што адбываецца нешта страшнае, бо было відаць, што ён уцёк. Мінкевіч жа падышоў да яго, павітаўся і сказаў: "Дык калі Чэсь вернецца...?" Гаворка, вядома, пра Мілаша», — успамінаў Стэфан Кісялеўскі.

Жыў у Варшаве, працаваў перакладчыкам нямецкай літаратуры, а пасля 1955 года пачаў публікаваць уласныя лірычныя і сатырычныя творы. Менавіта тады ў яго творчасці з'явіўся новы жанр — афарызмы.

«Станіслаў Ежы Лец быў адкрытым камуністам, што не перашкодзіла яму працягваць культ імператара Франца-Іосіфа, партрэт якога заўсёды вісеў на бачным месцы ў яго кватэрах. Нягледзячы на тое, што яго погляды адпавядалі пастуляванай палітыцы пасляваенных польскіх уладаў, у яго былі сур'ёзныя канфлікты з камуністычнай цэнзурай, — успамінаў Януш Р. Кавальчык. — Нарэшце — і, магчыма, перш за ўсё — ён лічыў сябе паэтам, хаця найбольшую вядомасць атрымаў як аўтар трапных выслоўяў».

Ён не чытаў лекцый і не маралізаваў. Яго сентэнцыі, трывала замацаваныя ў антычнай форме, здзіўлялі сваёй спрадвечнай, неадольнай логікай. Афарызмы Леца — самая арыгінальная і ў той жа час самая вядомая частка яго творчасці. Звярнуўшыся да формулы старажытных максімаў, выкарыстоўваючы востры розум, каламбур, гульню слоў, лінгвістычную канцэпцыю, паэтычную канцэпцыю і разумовы ярлык, Лец стварыў выключна дакладны каментарый да сучасных сацыяльных і палітычных з'яў.